Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4717) 17 мая 2013 г.

## Пункціраам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў беларусаў з Днём Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і адзначыў, што «для сапраўднага грамадзяніна няма нічога святлей і даражэй за герб і сцяг роднай краіны. Гледзячы на іх, кожны з нас адчувае сябе неад’емнай часткай адзінай вялікай сям’і, імя якой — беларускі народ».

✔ Міжнародны конкурс «Мастацтва кнігі» краін — удзельніц СНД упершыню пройдзе ў Мінску 23 — 24 мая. Пераможцы будуць узнагароджаны ў верасні падчас Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

✔ VIII Беларускі міжнародны медыяфорум «Партнёрства ў імя будучыні: гісторыка-культурная спадчына як фактар яднання» пройдзе 22 — 25 мая. Форум з’яўляецца пляцоўкай для абмену думкамі і выпрацоўкі новых ідэй і канцэпцый прадстаўнікамі экспертнай і медыясупольнасці краін СНД, блізкага і далёкага замежжа.

✔ Беларуская дэлегацыя з 16 па 21 мая бярэ ўдзел у Восьмых адкрытых моладзевых Дэльфійскіх гульнях краін — удзельніц СНД «Будзь у мастацтве!» Гэта адзіны ў свеце творчы форум, які аб’ядноўвае ўсе віды мастацтва — ад класічнага да сучаснага.

✔ Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Офіс» прадставіць Беларусь на Міжнародным тэатральным фестывалі імя А. П. Чэхава ў Маскве. Паказ адбудзецца 24 мая на сцэне Маскоўскага драматычнага тэатра імя А. С. Пушкіна, а 6 ліпеня — у Рызе. Таксама на фестывалі гледачы ўбачаць «Вяселле» купалаўскага тэатра.

✔ Мінскія музеі з 18 на 19 мая далучацца да міжнароднай акцыі «Ноч музеяў» і запрашаюць наведаць незвычайныя мерапрыемствы, арганізаваныя спецыяльна да акцыі.

✔ У Гомельскай вобласці праходзіць конкурс на атрыманне зацверджанай сёлета літаратурнай прэміі імя К. Тураўскага ў намінацыях «Проза», «Паэзія», «Драматургія», «Дзіцячая літаратура», «Публіцыстыка і літаратурная крытыка», «Адкрыццё года». Творы прымаюцца да 1 ліпеня.

✔ Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» стаў самым папулярным беларускім музеем па выніках мінулага года. Летась у яго было 431 тысяча наведванняў. Усяго за мінулы год айчынныя музеі наведалі 5,7 млн. чалавек.

✔ На гэтым тыдні ў Францыі адкрыўся 66-ы Канскі кінафестываль, на якім «Беларусьфільм» прадставіць пяць карцін у спецыяльнай праграме «Куток кароткаметражных фільмаў»: прэм’ерная стужка «Рыбка па імені Нельга-3», «Як служыў я ў пана» (анімацыя) і дакументальныя «Асаблівы тэатр. У пошуках шчасця», «Забраны край» і «Аксана Волкава. A prima vista». Акрамя таго, будзе вывучацца магчымасць продажу анімацыйнай стужкі «Прыгоды Несцеркі», для чаго падрыхтаваны яе варыянт з англійскімі субцітрамі.

**Падрыхтавала**
**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**


Пра што гаворыць Мінск? 8


Дуда як лёс. Нататкі з фэсту 13


Сапраўдны кошт Статута ВКЛ 14


Сур’ёзна пра «Камедыю» і не толькі 16



Фота Касцуся Дробава

*Каля стэнда Выдавецкага дома «Звязда» падчас Першага фестывалю сталічных сродкаў масавай інфармацыі.*

## Пытанне да творцы

# Піяр ці сціпласць?



**Рыгор Сітніца, мастак, паэт:**

— Адзнака сапраўднага творцы — высокі прафесіяналізм і шанаванне маральных пастулатаў, выкладзеных у дзесяці запаветах. І гэтага дастаткова. Калі ж гэтага няма, ніякі піяр не дапамагае, нават наадварот — прыніжае мастака і ператварае яго ў аб’ект насмешак. Калі чалавек ажно са скуры вылузваецца, але амбіцыі не падмацаваныя мастацтвам, — то ж проста курам на смех. Я займаюся тым, чым мушу займацца, тым, што прыносіць мне задавальненне, калі я дасягаю задачы, пастаўленай перад сабой. І не прыкладаю ніякіх намаганняў, каб прапіярыцца. Калі мой твор заўважаны, хай і невялікай колькасцю людзей, асабліва прафесіяналаў, — мне гэтага дастаткова. Тое ж і ў літаратурнай творчасці. Вельмі важна дасягнуць дасканаласці ў вершы. А калі дасягнуў, то і не надта цікава яго друкаваць. Значныя працэс і вынік. Выстаўкі і публікацыі — гэта ўжо другі этап, значна менш важны для мяне. Магу нават нясціпла сказаць, што я ў пэўным сэнсе чысты творца, якога цікавіць адно працэс. Усё, што па-за ім, — другасна. Асабліва піяр. Трэба не сябе самога піярыць, але набыткі нашай культуры ў цэлым. Вось гэтым я займаюся. За гэта я абедзвюма рукамі. Бо тое ўжо не піяр, але праца на культуру і нацыю.



**Вольга Гронская, паэтэса, выкладчыца БДУКіМ:**

— Выбар залежыць ад самога чалавека і яго жаданняў. Здавалася б, паводзіць сябе сціпла — прывабны варыянт і выглядае гэта годна. Але з іншага боку, калі прытрымлівацца сціпласці і нідзе не высоўвацца, ёсць рызыка так і застацца нікому не вядомым. Можа, некаму і дастаткова пісаць у стол і быць шчаслівым. Не магу сказаць, што я надта моцна піяруся, шмат выступаю са сваімі вершамі і бываю на ўсіх мерапрыемствах. Тым не менш вядомай быць хачу. Калі казаць у агульным пра сітуацыю ў беларускай літпрасторы, заўсёды ёсць аўдыторыя, якая цікавіцца сучаснай літаратурай, ходзіць на імпрэзы, ведае нашых пісьменнікаў і збольшага валодае інфармацыяй. Але часцей за ўсё, калі пытаешся ў тых жа студэнтаў, каго яны ведаюць, замест адказу ў аўдыторыі — цішыня. Выклікаюць здзіўленне нават прозвішчы даволі вядомых і раскручаных людзей, пры тым, што пісьменнікаў старэйшага пакалення моладзь у стане назваць. Так, пэўна, СМІ ўсё ж недастаткова піяраць беларускіх літаратараў.



**Міхаіл Фінберг, народны артыст Беларусі, прафесар:**

— Зразумела, творца павінен быць сціплы. Але разам з тым, калі краіна, так бы мовіць, дала яму ў рукі мастацтва, на асобу ўскладаецца вялікая адказнасць даносіць яго да людзей, папулярызаваць яго. Тут, як вы разумееце, сціплым быць не выпадае. Да таго ж, я займаюся не толькі «нацыянальнай» музыкай, але працую ў тым ліку і на камерцыйнай аснове, якая са сціпласцю таксама стасуецца мала.

# Масты садружнасці

**Сяргей ШЫЧКО**

Лёс беларускага драматурга, паэта, празаіка Міхаіла Грамыкі ў сумна памятныя часы сталінскіх рэпрэсій спрычыніўся і да Удмурціі. Тут ён знаходзіўся ў высылцы. Пра гэта расказваецца ў артыкуле Алеся Карлюкевіча «Беларускі драматург — у Іжэўску», што надрукаваны ў сакавіцкім за 2013 год нумары ўдмурцкага літаратурна-мастацкага часопіса «Кенеш». Дарэчы, гэтае выданне і раней звярталася да беларускай літаратуры.

Можна заўважыць, што ў апошнія шэсцьсем гадоў спакваля шырыцца прастора беларуска-ўдмурцкіх літаратурных зносін. З вершамі ў беларускім друку — у прыватнасці, у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя» — выступаюць удмурты Вячаслаў Ар-Сяргі, Сяргей Мацвееў. Вершы народнага пісьменніка Удмурціі В. Ар-Сяргі змешчаны і ў зборніку паэзіі народаў свету «Лучнасць» (перакладчык — Мікола Мятліцкі). А ў Выдавецкім доме «Звязда» рыхтуецца да друку кніга паэзіі В. Ар-Сяргі «Ранішні вецер у акне» (перакладчык — Віктар Гардзей).

# «Купалінцы» – 20!



Фота Мікалая Каланткая

Юныя паэты гуртка «Купалінка» Ждановіцкай сярэдняй школы.

Літаратурна-творчая суполка «Купалінка», у якую ўваходзяць два дзясяткі школ Мінскага раёна, адзначыла дваццацігадовы юбілей. Падзея значная і радасная як для саміх юных літаратараў, так і для кіраўнікоў аб'яднання.

На юбілейную імпрэзу школьнікі прывезлі свае лепшыя вершы і прадставілі іх не толькі юным паэтам з іншых школ, але і ўвазе прафесійных пісьменнікаў, якія сталі ганаровымі гасцямі свята. Павіншаваць «Купалінку» прыйшлі вядомыя беларускія літаратары: Міхась Пазнякоў, Уладзімір Мазго, Анатоль Зэкаў, Уладзімір Мацвеенка, Мікола Маляўка, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі, Кацярына Хадасевіч-Лісавая ды іншыя.

Аб'яднанне «Купалінка» атрымала Дыплом Саюза пісьменнікаў Беларусі за значныя поспехі ў справе выхавання дзяцей і падлеткаў, актыўную прапаганду роднай мовы і ў сувязі з 20-годдзем. Ганаровымі граматамі Саюза пісьменнікаў Беларусі ўзнагароджаны кіраўнікі суполкі Мікола Чарняўскі, Лілія Жаўняркевіч і Эльвіра Ярчак.

«Купалінка» стала вядомай за межамі Мінскага раёна дзякуючы таму, што школьнікі мелі магчымасць друкавацца на старонках рэспубліканскіх выданняў. Пачэснымі гасцямі свята сталі супрацоўнікі часопісаў. Віншавала юбіляраў галоўны рэдактар часопіса «Качели» Эмілія Луканская, якая адзначыла, што сярод пераможцаў конкурсу «Каб бацькоўская мова непаўторнаю кветкай цвіла» былі і юныя літаратары з «Купалінкі». Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Анастасія Радзікевіч уручыла падзякі купалінцам — пераможцам конкурсу «Мы — дружная сям'я». Супрацоўнік часопіса «Вожык» Павел Саковіч парадаваў юных творцаў навіной пра тое, што ў бліжэйшых нумарах часопіса будуць апублікаваны іх гумарыстычныя творы.

«Купалінка» — гэта выдатная школа, а яе выхаванцы — творчыя, таленавітыя, шчырыя, адкрытыя людзі. След, які яна пакінула, бачны як у жыцці кожнага яе сябра, так і на літаратурных старонках, напісаных юнымі паэтамі Беларусі.

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ**

# Культурныя брэнды

**Бажэна СТРОК**

У Магілёве праходзіць Міжнародны форум «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства». Ладзяць яго ўпраўленне культуры аблвыканкама і абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Мэта форуму — аб'яднаць навукоўцаў і практыкаў розных краін, садзейнічаць вырашэнню праблем захавання традыцыйнай культуры на міжнародным узроўні. Гэтая падзея падкрэслівае высокі статус народнай спадчыны ў жыцці нашай краіны і Магілёва, які ў 2013-м абвешчаны культурнай сталіцай Садружнасці незалежных дзяржаў і Беларусі.

— Сёлета Міжнародны форум пашырыў геаграфію ўдзельнікаў, на ім прысутнічаюць прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Азербайджана, Арменіі, Малдовы, Славацкай Рэспублікі, Галандыі, Эстоніі, Польшчы, Турцыі, Балгарыі, — распавёў дырэктар Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы Алег Хмяльκоў.

Акрамя таго, удзельнікі форуму пазнаёміліся з выстаўкамі беларускіх народных рамёстваў, ручнікоў Прыдняпроўскага рэгіёна, завіталі на прэзентацыі кампазіцыі «Матулін ручнік — крыніца лёсу» і метадычнага зборніка па сямейнарадавых абрадах Магілёўскай вобласці «Мікольская свечка». Заўтра госці Прыдняпроўскага краю возьмуць удзел у народным гулянні «Зялёныя святкі» ў Шклоўскім раёне, дзе ім будзе прадстаўлены досвед мясцовых устаноў культуры па захаванні песеннага фальклору. Удзельнікі форуму таксама наведаюць Дрыбінскі раён і пазнаёмяцца з працай устаноў культуры па адраджэнні народных рамёстваў, творчасцю майстроў-шапавалаў і майстроў па пляценні лапцей.

# Гімн прыгажосці свету

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Юбілей — нагода падсумаваць дасягненні, сустрэцца з сябрамі, сказаць шчыры дзякуй тым, каму абавязаны многім. Мастачцы Аксане Аракчэевай, чыя выстаўка «Бацькаў дар» адкрылася ў Палацы мастацтва, удалося максімальна рэалізаваць гэту задачу. На жаль, бацька, славуты беларускі мастак Барыс Аракчэеў, не дачакаўся значнай падзеі. Ды ўспаміны пра яго гучалі з вуснаў першага намесніка старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзіміра Зінкевіча, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Баліварыянскай рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь Амерыка Дзіаса Нуньеса, экс-паслоў Чэхіі і Славакіі — Іржы Караса і Марыяна Сэрваткі, асабіста знаёмых з мастаком. Высока ацанілі выступоўцы творчасць юбіляркі, яе сонечную энергію і ўменне гуртаваць неабыякавых людзей. Іржы Карас падкрэсліў: «Дзякуючы добраму сяброўству адбылося знаёмства чэхаў з беларускім мастацтвам, і правядзенне выставак у Чэхіі будзе працягвацца».

Творчая справаздача Аксаны знаёміць наведвальнікаў з шырокім спектрам яе мастацкіх інтарэсаў: тут і работы з любімай серыі «Мінскія вокны», і ілюстрацыі да дзіцячых кніг і часопісаў, і галерэя партрэтаў сучаснікаў.

# Verbum Nobile — наш гонар

Камерны музычны тэатр «Галерэя» пры падтрымцы Музычнага Дома «Класіка» прадстаўляе прэм'еру лірыка-камедыйнай оперы знакамітага беларускага кампазітара Станіслава Манюшкі «Verbum Nobile» («Слова гонару»).

**Вольга ДОЎГАЯ**

Сусветная прэм'ера оперы «Verbum Nobile» адбылася ў 1861 годзе ў Варшаве, дзе ў той перыяд жыў і працаваў Станіслаў Манюшка. Вытанчаны камедыйны сюжэт, яркасць музычных вобразаў і меладыйнае багацце прынеслі спектаклю заслужаны поспех і паставілі оперу ў шэраг лепшых твораў кампазітара. Пасля «Verbum Nobile» ставіўся ў тэатрах Польшчы і Расіі, аднак на радзіме аўтара — ніколі. Першую спробу ажыццявіць пастаноўку ў Беларусі зрабіў Камерны музычны тэатр «Галерэя». Над беларускай версіяй спектакля працуюць дырыжор-пастаноўшчык Іван Касцяхін, рэжысёр-пастаноўшчык Алена Медзякова і хормайстар-пастаноўшчык Жанна Філіповіч.

Захаваўшы вытанчанасць і прыгажосць музычнага стылю аўтара, спецыяльна для беларускай прэм'еры оперы пералажэнне для камернага складу аркестра стварыў дырыжор-пастаноўшчык Іван Касцяхін. Жывы гумар і займальныя сюжэтныя калізіі польскага лібрэта Яна Хенцыньскага знайшлі сваё адлюстраванне ў беларускім перакладзе Дар'і Вашкевіч. Рэжысёрская версія Алены Медзяковай прадставіць жанр класічнай камернай оперы ў арыгінальным сучасным ключы.

Мінская прэм'ера лірыка-камедыйнай оперы Станіслава Манюшкі «Verbum Nobile» адбудзецца на сцэне Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў 30 мая і 5 чэрвеня, а 20 мая спектакль будзе паказаны на самай старой тэатральнай сцэне Беларусі, адкрытай больш як два стагоддзі таму мецэнатам Антоніем Тызенгаўзам, — у Гродзенскім абласным тэатры лялек.



# Вялікі юбілей

Юбілейны, 80-ы, сезон Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі — у самым разгары: адно адна змяняюць прэм'еры, гастролі і творчыя праекты. А кульмінацыяй святкавання стане грандыёзны тэатралізаваны гала-канцэрт, які адбудзецца 23 мая. Акрамя гэтага, здзейснены і іншыя творчыя ініцыятывы.

Да юбілейнай даты Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі падрыхтавала шыкоўнае, багата ілюстраванае выданне «Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі», якое распавядае пра творчы шлях і ролю тэатра ў культурным асяродку краіны. А пра артыстаў тэатра раскажа выстаўка мастачкі Аксаны Аракчэевай.

Нацыянальны банк Беларусі выпусціў залатыя, срэбраныя і медна-нікелевыя памятныя манеты «Беларускі балет. 2013», на якіх змешчаны выявы Вялікага тэатра і партрэт народнай артысткі Беларусі Вольгі Гайко ў ролі Адэты-Адыліі з балета «Лебядзінае возера». Сцэны з оперных і балетных спектакляў змешчаны таксама на юбілейных марках і спецыяльным паштовым канверце, выраблены выдавецкім цэнтрам «Марка» Белпошты. Прэзентацыя манет і гашэнне маркі запланаваны на 22 мая.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

## Абрысы

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа 22 мая а 17-й гадзіне запрашае на другую імпрэзу з цыкла «Зямля — аснова ўсёй Айчыне», прысвечаную 90-годдзю паэмы «Новая зямля». Гасцям будуць прадстаўлены творы сусветнай літаратуры, у якіх першасную ролю адыгрывае тэма зямлі. Гэтым разам наведвальнікаў чакае знаёмства з малавядомым творам «Плённасць» Э. Заля, ідэйным і сюжэтным працягам Коласавай паэмы. У прэзентацыі возьмуць удзел прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, музыкі, спевакі.

Міжнародная выстаўка «Галаграфія-2013. Гомель» адкрылася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. Экспазіцыя складаецца прыкладна са 130 мастацкіх галаграм, трэцяя частка якіх прадстаўлена ў Беларусі ўпершыню. Свае работы прадставілі мінская студыя «Магія свету», а таксама майстры з Балгарыі, Вялікабрытаніі, Расіі, ЗША, Францыі, Ізраіля, Кітая, Літвы і іншых краін. Спецыяльна да выстаўкі былі выраблены галаграмы экспанатаў з фондаў гомельскага музея — каменнай іконкі «Хрыстос Уседзяржыцель» (канец XII — XIII ст.), віслай пячаткі-пломбы драгічынскага тыпу часоў Кіеўскай Русі і кішэннага гадзінніка (1880-я гг.).

Паэт, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Мазго завітаў на сустрэчу з юнымі чытачамі ў Заслаўскую гарадскую дзіцячую бібліятэку. Перад імпрэзай супрацоўнікі выдавецтва «Народная асвета» арганізавалі выстаўку кніг для дзяцей, сярод якіх былі і выданні госця. Пісьменнік чытаў свае вершы, скорагаворкі, пацешкі, загадваў загадкі, адказваў на пытанні. Гэта не першая літаратурная сустрэча, праведзеная выдавецтвам сумесна з секцыяй дзіцячай літаратуры. Раней у розных гарадах рэспублікі выступалі Мікола Чарняўскі, Алесь Марціновіч, Міхась Пазнякоў, Алена Масла ды іншыя творцы.

Міжнароднаму дню работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі была прысвечана сустрэча з творчай групай радыёспектакля «Адгукніся, браце!» па п'есе Георгія Марчука, арганізаваная Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа. У аснове твора, прысвечанага 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, — сцэны з жыцця маладога творцы, гады яго станаўлення, уключаны ў прэзентаваны пры канцы мінулага года радыёспектакль і ўрыўкі з «Сымона-музыкі», «Новай зямлі» і зборніка «Песні жальбы». На імпрэзе пра пастаноўку распавядалі Георгій Марчук, рэжысёр-пастаноўшчык Алег Вінярскі і выканаўца галоўнай ролі Андрэй Кавальчук.

# Пропуск у Мастацкі



*Работа Ганны Мельнічук — пераможца конкурсу «Дызайн уваходнага білета-2013 у Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь».*

Да публічнага конкурсу «Дызайн уваходнага білета ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь» за гады яго правядзення сфарміраваліся розныя стаўленні. Нехта кажа, што конкурс ужо «зжыў» сам сябе, канцэпцыі работ паўтараюцца і ў будучыні не з'явіцца нейкіх прынцыпова новых рашэнняў. Нехта, наадварот, выступае ў абарону такога спаборніцтва, маўляў, гэта і добры стымул для творчасці, і ўжо сталая візітка Нацыянальнага мастацкага, і новыя дызайнерскія адкрыцці ў вырашэнні канцэпцыі білета.

Як бы там ні было, конкурс жыве. І вось не так даўно ў Мінску стаў вядомы дызайн новага ўваходнага квітка ў Нацыянальны мастацкі музей краіны. Па традыцыі спаборніцтва прайшло пры падтрымцы Замежнага прыватнага прадпрыемства «British American Tobacco Trading Company».

— За амаль дзесяцігадовую гісторыю конкурсу мы ўбачылі мноства яркіх, цікавых і арыгінальных работ і ад сапраўдных прафесіяналаў, і ад дызайнераў-пачаткоўцаў, і проста творчых асоб. Сёлетняе спаборніцтва не стала выключэннем. Выбраць пераможцу сярод вартых удзельнікаў было сапраўды няпроста, — падкрэсліў генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў.

Уладальніка галоўнага прыза конкурсу вызначыла прафесійнае журы, у склад якога ўвайшлі дызайнеры, графікі, выкладчыкі, даследчыкі-мастацтвазнаўцы. Сябар журы, дызайнер, член Беларускага саюза дызайнераў, кандыдат філасофскіх навук Алег Чарнышоў адзначыў:

— Гэты конкурс — паказальны прыклад таго, што ў прафесіі дызайнера ўсё не выпадкова. У ліку адметнасцей работ адзначаліся не толькі смеласць, але і нахабства, уменне думаць, адчуваць.

Спаборніцтва было сапраўды напружаным, але пераможца вызначаны. Ім стала — дарэчы, з адрывам толькі ў адзін бал — студэнтка Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Ганна Мельнічук. «Прыз глядацкіх сімпатый», які традыцыйна прысуджалі наведвальнікі музея, сёлета ўпершыню за гісторыю конкурсу атрымалі адразу чатыры ўдзельнікі з Мінска: Аляксандр Патапаў, Ніна Райдан, Уладзіслаў Мароз і Сяргей Кібак. Прызы ад дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміра Пракапцова ў гэтым годзе таксама ўпершыню атрымалі два канкурсанты — Валерый Манін і Уладзіслаў Мароз.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



*Фота Кастуся Дробава*

# Той самы першы нумар

У Доме-музеі першага з'езда РСДРП да 26 мая будзе доўжыцца выстаўка «Аўтограф. Твой след у гісторыі», прысвечаная Дню друку і... юбілею часопіса «Маладосць».

**Святлана ВОЦІНАВА**

Сярод экспанатаў, прадстаўленых на выстаўцы, можна ўбачыць самы першы нумар часопіса «Маладосць» — той самы, што павінен быў выйсці ў сакавіку 1953-га ў найпрыгажэйшым выглядзе, а выйшаў на месяц пазней і з партрэтам Сталіна на вокладцы. На выстаўцы прадстаўлены і адзін з варыянтаў увасаблення сімвала часопіса — значок-васілёк, распрацаваны мастаком Уладзімірам Крукоўскім у 1970-я гады, а таксама рукапісныя арыгіналы маладосцеўскай «калекцыі почыркаў» — рубрыкі «Ад рукі».

Палічка экспанатаў «Маладосці» ўпісваецца ў ідэю выстаўкі найлепшым чынам — з нагоды юбілею часопіс робіць сваім чытачам падарункі ў выглядзе аўтографаў знакамітых пісьменнікаў (пра ўмовы святочнай акцыі можна прачытаць тут: *http://www.maladost.lim.by*).

# Напісанае... ахоўваецца

Культурна-асветніцкая акцыя «Крок у будучыню», прысвечаная Сусветнаму дню кнігі і аўтарскага права, адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Юлія ШАБЛОЎСКАЯ**

У межах акцыі Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці і Савет бібліятэк па інфармацыйным узаемадзеянні арганізавалі семінар «Ахова інтэлектуальнай уласнасці ў кантэксце дзейнасці бібліятэк», падчас якога супрацоўнікі кніжніцы краіны пазнаёміліся з сутнай і айчыннай практыкай вырашэння пытанняў у галіне аўтарскага права. Вялікая праца тут зроблена Нацыянальным цэнтрам інтэлектуальнай уласнасці. Выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара НЦІУ Дзяніс Нядзвецкі павіншаваў пераможцаў конкурсу студэнцкіх работ у галіне інтэлектуальнай уласнасці Святлану Вашацькову, Ірыну Ксендзікаву і Вольгу Прымакову.

Гэтымі днямі былі ўрачыста падпісаны аўтарскія дамовы на выкарыстанне ў электроннай бібліятэцы НББ твораў маладых навукоўцаў краіны і Ірыны Відавай — папулярнай беларускай спявачкі і аўтаркі.

«Цэнтр — ахоўвае, бібліятэка — захоўвае, а мы — ствараем!» — падсумаваў кампазітар Алег Моўчан.

# Віват беларуская вечарына!




Атмасфера сяброўства, добразычлівасці, пазітыву, яркіх уражанняў панавала на філалагічным факультэце БДУ падчас шостай «Беларускай вечарыны», прысвечанай 190-годдзю знакамітага паэта, публіцыста, крытыка, перакладчыка і этнографа Уладзіслава Сыракомлі.

Удзельнікі мерапрыемства, а гэта перадусім студэнты першага і другога курсаў беларускай і славянскай філалогіі, прадэманстравалі не толькі артыстызм, але і адметны сцэнічны прафесіяналізм. Распачаў вечарыну гурт «Эмілія і Бэнд» песняй «Груган» на словы У. Сыракомлі, выкананай у стылі мадэрновага фольк-року. Затым студэнты, што прыехалі ў Беларусь з сонечнага Ашхабада, прачыталі (па-беларуску!) верш У. Сыракомлі «Добрыя весці». Цэнтральнае месца заняла інсцэніроўка славутай патрыятычнай гутаркі Вясковага лірніка «Жменя пшаніцы». Дух часу і моду сярэдзіны XIX ст. перадаў найпапулярнейшы ў тыя часы танец — кадрыля. Выканаўцы былі прыхільна сустрэты публікай.

Кожны, хто прысутнічаў на шостай «Беларускай вечарыне», атрымаў вялікую асалоду, добры настрой і, спадзяюся, прыемныя ўспаміны, якія застануцца ў душы на доўгі час.

А той, хто яшчэ не быў на «Беларускай вечарыне», запрашаецца. І можаце быць упэўненыя: знойдуцца лекі ад дрэннага настрою, заклапочанасці і перажыванняў.

**Анастасія АЛЕШЧАНКА**

# «З глебы на прастор прабіцца...»

*І пад птушы крык і гоман,*
*Даўшы хвалям вольны ход,*
*Прыпадыме бацька Нёман*
*На хрыбце магутны лёд...*

Так натхнёна пісаў Максім Багдановіч пра раку, на берагах якой прайшлі самыя шчаслівыя імгненні яго дзяцінства. У другой палове XX стагоддзя рака Нёман дала назву штомесячнаму літаратурна-мастацкаму і грамадска-палітычнаму часопісу, дзе друкуюцца як рускамоўныя пісьменнікі Беларусі, так і пераклады твораў беларускамоўных аўтараў. Яго мінуламу і сучаснасці была прысвечана прэзентацыйная вечарына, якая адбылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Супрацоўнікі рэдкалегіі распавялі гісторыю перыядычнага выдання, а таксама пра тое, як асвятлялася ў часопісе асоба Максіма Багдановіча. Паэты, вершы якіх пабачылі свет на «нёманскіх» старонках, прачыталі свае творы, прагучалі беларускія народныя песні.

У імпрэзе бралі ўдзел Алесь Бадак, Міхась Пазнякоў, Юрый Сапажкоў, Наталля Капа, Аксана Спрынчан, Вольга Базылёва, Павел Астравух, Ала Сямёнава і Дар'я Лёсава.

**Таццяна БАРАДУЛЯ**

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае далучыцца да Міжнароднай акцыі «Ноч музеяў» і ўзяць удзел у праекце «PaЎlinka PARTY». У ноч з 18 на 19 мая музей запрашае на выстаўку handmade-вырабаў, канцэрт фольк-арт-рок-гурта «Alta Mente» і этна-мадэрн-гурта «Folkmashina», электрычны канцэрт гурта «Босае сонца», выступленні тэатра танца «ОтражениЯ», студэнцкага эксперыментальнага тэатра-студыі «ARTvoyage», Адэкватнага тэатра «вКУБЕ». А паказ праекта мадэльнага і дызайнерскага мастацтва «Галерэя стылю» будзе суправаджацца выступленнем духавога аркестра пагранічных войск Беларусі. Таксама можна паспрабаваць сябе ў якасці майстра body-art, мадэльера і наведаць майстар-класы па прычосках і жаночых упрыгажэннях.

Адчуць сябе масонам і стаць гаспадаром горада прапануе ў Ноч музеяў Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Лабірынт «Стань масонам» пазнаёміць з гісторыяй, традыцыямі і сімваламі масонаў, а яго праходжанне завершыцца рытуальным пасвячэннем у масоны з абавязковым абрадам ініцыяцыі. У гэтую ж ноч музей стане полем бітвы паміж рознымі групоўкамі, што змагаюцца за горад у гульні «Мафія». Каб стаць удзельнікам імпрэз, паспяшайцеся набыць квіткі.

Літаратурная вечарына, прысвечаная памяці таленавітага журналіста і пісьменніка Мікалая Еляняўскага, якому сёлета споўнілася б 65 гадоў, прайшла ў Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Я. Янішчыц. Патрыятызмам, любоўю да роднай зямлі прасякнутыя нарысы зборніка «Нябесны штурмавік», а героямі сталі палешукі, якія ваявалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Раман-хроніка «Час святара» — вынік карпатлівага пошуку звестак пра святара Лунінскай Барысаглебскай царквы Платона Ціхановіча. М. Еляняўскі быў адным з ініцыятараў фестывалю «Лунінская восень», на якім штогод уручаецца абласная літаратурная прэмія імя У. Калесніка. На жаль, не ўвасобіліся ў кнізе гатовыя да друку раманы «Нагрудны крыж» і «Мытары і Фарысеі». Клопаты па іх выданні ўзяў на сябе кіраўнік Брэсцкай абласной пісьменніцкай арганізацыі Анатоль Крэйдзіч.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні празаіку Івану Сабілу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ Клаўдзіі Мікалаеўны.

Супрацоўнікі РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» і рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуюць з прычыны смерці заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі мастачкі Нінэль ШЧАСНАЙ і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

# Што ў слове ўзышло

Дата нараджэння Васіля Івашына (1913 — 2009), акадэміка, кавалера ордэна Айчыннай вайны 2-й ступені, шчаслівым чынам супала з гістарычнай датай усенароднага свята Дня Перамогі, што заўжды было прадметам гонару юбіляра.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**фота прадастаўлена ЦНБ НАН Беларусі**

У пачатку 90-х гадоў Алесь Адамовіч, які тады жыў у Маскве, падчас аднаго са сваіх досыць частых прыездаў у Мінск нечакана спытаў у мяне: «Праўда, што Васіль Івашын піша і друкуе вершы?» Я ахвотна пацвердзіў, што гэта сапраўды так.

Васіль Івашын здзівіў не толькі Адамовіча, але і многіх сваіх калег. Па сутнасці, ён абверг даўні стэрэатып, які склаўся пра яго ў навуковым асяроддзі яшчэ ў 50-я гады, калі ён заявіў пра сябе як літаратуразнаўца. А сэнс гэтага стэрэатыпа зводзіўся да таго, што мы ў яго асобе нібыта маем ледзь не артадокса, які сцвярджае ў літаратурнай навуцы састарэлыя прынцыпы вульгарна-сацыялагічнай школы. У якасці прыкладу згадвалі яго навуковую манаграфію «Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму» (1963). Прынамсі, даводзілася чуць і ў акадэмічным Інстытуце літаратуры, і ў літаратурным асяроддзі такія меркаванні, заснаваныя на часам павярхоўных уяўленнях, неправераных чутках, скараспелых высновах, легкаважных суджэннях.

Шмат што тлумачылася мэтай і задачай, якую свядома ўзяў на сябе даследчык.



В. Івашына цікавілі тэарэтычныя і гістарычныя праблемы творчага метаду крытычнага і сацыялістычнага рэалізму як асобнага віду гуманітарных ведаў, якія прыкметна актуалізаваліся ў сітуацыі крызісу і распаду пануючых вульгарных уяўленняў. У гэтым сэнсе літаратуразнаўца ішоў у нагу з патрабаваннямі эпохі духоўнага абнаўлення ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, што выявілася ў яго крытычным пераглядзе ранейшых поглядаў і імкненні да аб'ектыўнага даследавання. Глыбокі і грунтоўны аналіз купалаўскай і коласаўскай спадчыны, здзейснены з апорай на новыя архіўныя матэрыялы, дазволіў навукоўцу раскрыць асаблівасці эстэтычных поглядаў, творчага метаду і стылю родапачынальнікаў новай беларускай літаратуры, а таксама паказаць суадносіны з рамантызмам. Зразумела, што працэс вызвалення ад састарэлых догмаў і выпрацоўкі падыходаў насіў драматычны характар, і сляды гэтага пакутлівага пераадолення ідэалагічных перашкод і супярэчлівага станаўлення самога сябе як тэарэтыка і гісторыка новага літаратуразнаўчага пакалення навідавоку.

Навуковая метадалогія ў перыяд «адкрыцця рэчаіснасці» ў 50 — 60-я гады XX стагоддзя, акрамя ўсяго, набывала характар ператваральных адносін чалавека да навакольнага свету. У выніку выбар метадалагічных шляхоў і прыёмаў станавіўся палітычным і ідэалагічным выбарам, што само па сабе вымагала ад даследчыка павышанай асцярогі, асаблівай чуласці да змен грамадскай атмасферы. Гэта ён зразумеў яшчэ ў часы навучання ў транспартна-эканамічным тэхнікуме і ў Мінскім педінстытуце, калі ў маладога чалавека прачнулася любоў да мастацкага слова і цяга да складання вершаў. Гэта было родава-генетычнае адчуванне сваёй абранасці і свайго творчага шляху, калі прыгадаць, што Васіль Івашын быў сваяком выдатнага празаіка Лукаша Калюгі (Канстанціна Вашыны), які раіў яму не кідаць пісаць: «Іскра ў табе ёсць!» Але гэта было і ранняе разуменне таго, што лёс паэта, які, да ўсяго, піша па-беларуску, складаны і драматычны, пра што сведчыў наглядны прыклад блізкіх людзей. Лукаш Калюга ў студзені 1933 года быў арыштаваны і пазбаўлены волі на 5 гадоў, а 2 кастрычніка 1937 года паўторна арыштаваны і, паводле ўспамінаў яго сябра Франца Гінтаўта, расстраляны. У тым жа 1937 годзе быў рэпрэсіраваны бацька Васіля Івашына.

Пра лёс бацькі В. Івашын ужо ў наш час апавядаў у вершы «Сон»: «Страшны сон я бачу: / нібы кроў глытаю. / Што такое значыць? / — Сам сябе пытаю... / Раптам злая бура / Дуб стары зваліла / І на нашу хату / Дуб той паваліла. / Рушыла лавіна, / З громам шуганула / І ў адну хвіліну / Бацьку праглынула...» На вачах студэнта Івашына ў 30-я гады мінулага стагоддзя знікалі беззваротна яго сябры-аднакурснікі, якія таксама, як і ён, пісалі вершы.

Паэтычная іскра, пра якую казаў юнаку Лукаш Калюга, не згасла і нагадвала пра сябе ў яго любові да беларускага слова і беларускай літаратуры. Літаратурная навука і літаратурная адукацыя ў жыцці і творчасці вучонага ішлі заўсёды поруч. Так было ў часы панавання камуністычнай монаідэалогіі, так было і ў часы пераходу да адкрытага грамадства. З удзячнасцю згадваю падручнік па літаратуры для 8 — 9 класаў (1959), адным з аўтараў якога, поруч з В. Барысенкам, быў В. Івашын. Падручнік з сучаснага пункту гледжання ад пачатку да канца пранізаны той самай монаідэалогіяй. Згадваецца, аднак, з цеплынёю, бо ў ім напамінала пра сябе трывалая аснова, на якой так ці інакш усё ж мог сфарміравацца чалавек нацыянальнай культуры, тым больш калі мець на ўвазе лёгкага да ўнушэння вучня сярэдняй школы, які да ўсяго меў вясковую моўную загартоўку. Падручнік вытрымаў 19 перавыданняў, а яго абноўлены варыянт, створаны ў суаўтарстве з

> *«Паэтычная іскра, пра якую казаў юнаку Лукаш Калюга, не згасла і нагадвала пра сябе ў яго любові да беларускага слова і беларускай літаратуры. Літаратурная навука і літаратурная адукацыя ў жыцці і творчасці вучонага ішлі заўсёды поруч. Так было ў часы панавання камуністычнай монаідэалогіі, так было і ў часы пераходу да адкрытага грамадства.*

акадэмікам М. Лазаруком (1979), вытрымаў яшчэ 8, што не толькі сведчыла пра палітычную стабільнасць краіны, але і не ў апошнюю чаргу нагадвала пра навуковую грунтоўнасць кнігі.

У літаратуразнаўчых і метадычных распрацоўках, выдадзеных пад навуковым кіраўніцтвам В. Івашына, заяўляла пра сябе, няхай і прыкметна збедненая, стыхія беларускага маўлення як выяўленне, паводле слоў Вільгельма фон Гумбальта, магутнага народнага духу. Гэта быў базіс для абуджэння і развіцця моўнай успрымальнасці, і не толькі сваёй літаратуры, гісторыі, культуры, але і іншамоўнай, іншанацыянальнай. Выкладанне беларускай літаратуры, як вядома, на працягу вялікага адрэзка часу сутыкалася з сур'ёзнымі перашкодамі. Сама беларуская літаратура была вымушана задавальняцца другараднай роляй як маладая, неразвітая, правінцыйная, ізаляваная ад сусветнага мэйнстрыму. Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, беларуская літаратурная адукацыя добра ці кепска, але ратавала нацыянальную культуру ад поўнага вынішчэння і самазабыцця. Літаратурная навука, як умела, спрыяла натуральнаму жаданню беларусаў гаварыць на сваёй мове і чытаць, захапляцца, любіць мастацкія творы, напісаныя на ёй.

Беларус ад нараджэння і патрыёт паводле роду заняткаў, Васіль Івашын рабіў сваю справу з вялікай любоўю да будучых пакаленняў школьнікаў. Першыя падручнікі і дапаможнікі па літаратуры ствараліся

> *«Літаратуразнаўца ішоў у нагу з патрабаваннямі эпохі духоўнага абнаўлення ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, што выявілася ў яго крытычным пераглядзе ранейшых поглядаў і імкненні да аб'ектыўнага даследавання.*

пісьменнікамі і навукоўцамі. Мусіць, невыпадкова і тое, што ў сістэме нацыянальнай літаратурнай адукацыі на працягу трох дзесяцігоддзяў тон задавалі менавіта акадэмікі В. Івашын і М. Лазарук, выхаванцы акадэмічнага Інстытута літаратуры.

Канцэпцыя працэсу засваення літаратурных ведаў, створаная пад навуковым кіраўніцтвам гэтых закаханых у сваю справу, дасведчаных і прагрэсіўных вучоных яшчэ ў 1991 годзе, і ў наш час, калі здзяйсняецца ўкараненне новай канцэпцыі літаратурнай адукацыі, уражвае сваёй прадуманасцю як у галоўным, так і ў дэталях, тэарэтычнай і метадалагічнай абгрунтаванасцю, вынашанасцю асноўных ідэй і дзівоснай стратэгічнай празорлівасцю. Шкада, што не ўсе, хто мае сёння дачыненне да стварэння абноўленых адукацыйных праектаў, гэта разумеюць, паддаючыся эмоцыям і прымхліваму жаданню ўсё вырашаць лёгка і хутка, не дбаючы пра магчымыя трагічныя наступствы. Пакуль, на маю думку, пэўная апрабаваная структура працуе, не стамілася (бо стамляецца і старэе нават метал), датуль яе варта выкарыстоўваць, удасканальваць і ўмацоўваць. Тым больш ва ўмовах, калі працэсы руйнавання ўжо правераных і ўкаранёных мадэляў нацыянальнага існавання і самаабнаўлення, самастварэння набываюць — і гэта не перабольшванне — катастрафічныя маштабы.

Нацыянальная адукацыя, у тым ліку і літаратурная, у час стварэння інфармацыйнага грамадства набывае ўсё большую каштоўнасць. Гэта выдатна разумеў Васіль Івашын. Добра помніцца, як горача, паслядоўна і мэтанакіравана праводзіў ён свае ідэі і свае падыходы на метадычных семінарах і «круглых сталах», арганізатарам і навуковым кіраўніком якіх ён быў, поруч з М. Лазаруком і навуковымі супрацоўнікамі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Гутарка ішла пра тое, што шпарка пашыраецца набор матывацый у атрыманні грунтоўных літаратурных ведаў, інтэлектуальны і маральны патэнцыял нашай краіны непасрэдна залежыць ад стану адукацыі, інвестыцый у навуковыя даследаванні і новыя тэхналогіі, ад вызвалення творчай энергіі і ўяўлення нашага народа, што можа ўжо на працягу аднаго-двух пакаленняў мякка і глыбока змяніць нацыянальны менталітэт, асучасніць яго. Менталітэтастваральныя функцыі адукацыі даўно вядомыя, а ў наш час актыўнага спаборніцтва розных нацыянальных адукацыйных сістэм, уменне хутка і глыбока засвойваць сусветны досвед менавіта такі падыход да сваёй справы мае перспектыву. Арыентацыя на глыбінныя культурныя каштоўнасці дапамагае трансляцыі этыка-эстэтычных ведаў у Вялікім Часе і супрацьстаіць зігзагам у духоўнай сферы.

У тым, што менавіта В. Івашын у канцы 60-х гадоў стаў дырэктарам Інстытута педагогікі, была свая логіка. Некаторых калег Васіля Уладзіміравіча хіба што ўразіла неспадзяванка, з якой ён адначасова быў абраны акадэмікам Педагагічнай акадэміі СССР. Але таго вымагала адказная пасада, па сутнасці, вядучага навуковага кіраўніка адукацыйнага працэсу. Я, паступіўшы ў аспірантуру акадэмічнага Інстытута літаратуры, яшчэ заспеў Васіля Уладзіміравіча на пасадзе загадчыка сектара гісторыі беларускай савецкай літаратуры і з першых крокаў у новай сферы адчуў важкасць яго аўтарытэтнага слова, калі на пасяджэннях Вучонага савета, дзе ў тыя часы прысутнічалі ўсе супрацоўнікі нашай невялікай навуковай установы і лічылі гэта за гонар, прымаліся рашэнні многіх важных праблем акадэмічнага жыцця і вызначаўся лёс літаратурнай навукі.

Жыццё і лёс акадэміка Васіля Івашына, глыбокага знаўцы беларускай літаратуры і культуры, навукі і адукацыі, яго нечаканае для многіх адкрыццё ў сабе паэтычнага дару, яго навуковая і грамадзянская пазіцыя яшчэ і яшчэ раз пераконвалі ў тым, што, робячы адну справу, маючы шматгадовае дачыненне да роднай літаратуры, дбаючы пра стан літаратурнай адукацыі і выхавання, немагчыма не шанаваць зробленае калегам і не цаніць яго сапраўднай і надзвычай шчырай чалавечнасці, жывой зацікаўленай спагады.




**Даведка «ЛіМа»**

*Пасля вайны В. Івашын вучыўся ў аспірантуры акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, быў загадчыкам сектара беларускай савецкай літаратуры, дырэктарам Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. З 1979 г. і да апошніх дзён жыцця працаваў вядучым навуковым супрацоўнікам-кансультантам Інстытута адукацыі. У друку выступаў з 1949 г. Сфера навуковых інтарэсаў — праблемы крытычнага і сацыялістычнага рэалізму, беларуска-рускіх і беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, методыкі выкладання літаратуры ў школе. Акрамя грунтоўных навуковых манаграфій, школьных падручнікаў па беларускай літаратуры пад навуковым кіраўніцтвам Васіля Уладзіміравіча выдаваліся навукова-метадычныя распрацоўкі, прысвечаныя пытанням выкладання літаратуры ў школе. У апошнія дзесяцігоддзі жыцця апублікаваў тры зборнікі лірычных вершаў.*

# (Дэ)канструкцыя казкі

*Калі чароўныя казкі ўвогуле вартыя таго, каб іх чыталі, значыць, неабходна іх пісаць і для дарослых таксама.*
***Дж. Толкіен***

Мы з задавальненнем чытаем казкі дзецям, але пры гэтым рэдка ўсведамляем, што казка патрэбна нам самім. Яшчэ радзей прызнаёмся ў гэтым сабе і іншым — верагодна, з-за страху быць абвінавачанымі ў інфантыльнасці.

Прыняць я-дзіця як сваю неад'емную частку, легалізаваць яго ў соцыуме, даць яму выйсце, навучыцца фантазіраваць — задачы, вырашэння якіх падсвядома шукае сучаснік. Адным са сродкаў тут з'яўляецца фэнтэзі. Па сутнасці, гэта тая самая казка, толькі аўтарская, напісаная свядома і з выкарыстаннем алюзій, адсылак да фальклору, міфалогіі, літаратуры. Менавіта такой з'яўляецца аповесць Сержа Мінскевіча «Усмешка Жалобнай Каралевы, альбо Тайна магнітнага замка». Гэтая казка сучасная не зместам, а сваім спосабам арганізацыі, бо прастора тэксту загерметызаваная ў коле знакаў — фальклорна-міфалагічных і культурных, напоўненая шматузроўневай іроніяй.

Фабула аповесці казачная, аднак у ёй няма архаічнасці. Гэта хутчэй квазіказачнасць, пра што мы здагадваемся толькі тады, калі прачытаем тэкст цалкам. Уласна фабула тэксту адпавядае казачнай мадэлі. З'яўляюцца героі, знешнасць, паводзіны якіх зробленыя згодна з формулай казкі. Мастак Дроздзіч нагадвае Дзеда-Барадзеда. Ён увасабляе абсалютнае казачнае дабро, магчымасць чароўнага пераўтварэння свету. Арцін і Алеолла таксама выглядаюць так, нібы сышлі са старонак беларускай казкі: аўтэнтычныя строі, пяро на капелюшы юнака, цалкам беларуская знешнасць, наіўнае і адкрытае ўспрыманне свету, урэшце, статусы-знакі герояў — будучыя віцязь і яснапанна. Пасля абазначаецца місія, якую мусіць выканаць пара: вызваліць людзей, выкрадзеных Жалобнай Каралевай Паляндрай. Далей героі пускаюцца ў падарожжа, напоўненае прыгодамі. Яно праходзіць водным шляхам, што з'яўляецца архетыповым матывам, і мае прамежкавую мэту — знайсці дрэва-шаўкоўніцу, на якой выспяваюць плады шчасця. Расліна знаходзіцца на паўвыспе ля Вечаровага мора, а побач з ёй ходзіць разумны кот, які размаўляе чалавечай мовай. Зваранае з ягад дрэва поліўка знішчыць Жалобную Каралеву. Тады людзі будуць вызваленыя і ў свеце ўсталююцца мір і гармонія.

Сюжэт твора просты і знаёмы нават тым, хто ў дзяцінстве быў далёкі ад захаплення казкамі. Бо гэта сюжэт-тып. Уласна сам па сабе ён і нецікавы. Гэта выключна фактура, прычым фактура, падабраная ідэальна. Што робіць з ёй аўтар? Наслойвае на яе шраг культурных знакаў, з якімі гуляе праз стварэнне ўласных інварыянтаў. Такім чынам, аповесць пачынае існаваць у постмадэрновай літаратурнай прасторы і напаўняцца новымі сэнсамі.

Падзагаловак тэксту «Аповесць легендарных часоў», відавочна, адсылае да «Аповесці мінулых часоў». Гэта задае агульны інтэртэкстуальны тон твора. Далей гульня з культурнымі знакамі працягваецца. Вобраз мастака Дроздзіча напісаны з алюзіяй на Язэпа Драздовіча. Міф пра Паляндру — гэта своеасаблівы беларускі рэмейк казкі пра Снежную Каралеву. Кот Міямурмарор адсылае чытача адразу да некалькіх прататыпаў — казачны кот-Баюн, пушкінскі вучоны кот, кот Варгін са «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага. Гэты персанаж асабліва звяртае на сябе ўвагу ў плане стварэння новага варыянта на аснове прататыпаў. Прычым якасці, якімі гэтыя прататыпы валодаюць, у С. Мінскевіча дэканструююцца. Міамурмарор — гэта па сутнасці перакулены кот Варгін: у процівагу свайму беларускаму аналагу ён не наганяе пустыя думкі, а, наадварот, сваім муркатаннем падказвае разумныя рашэнні. Функцыя вучонага ката — быць скарбонкай мудрасці: нешта прамаўляць, пажадана ў манеры афарызмаў, даваць фундаментальныя парады, што накіроўваюць герояў на правільную дзейнасць. У прынцыпе, Міамурмарор гэта і робіць. Толькі ва ўласнай непрадказальнай здзекліва-іранічнай форме. З Арцінам ён увогуле ўступае ў спрэчкі, адпаведныя сцэны напоўненыя добрым гумарам. Кот можа пераўвасабляцца да непазнавальнасць, што тонка акцэнтуе яго трансфармацыйную сутнасць.

У аповесці цікава дэканструююцца не толькі вобразы, але і сюжэты. У сцэне выбару мудрацоў для дыспуту сюжэтная структура спачатку адсылае да казачнай мадэлі. Хан Ісмірай выбірае хітрыя загадкі, над імі ламаюць галовы прэтэндэнты, вось-вось вызначацца двое фіналістаў — самых разумных і самых кемлівых, у спрэчках якіх і будзе знойдзена адзіна правільнае рашэнне. Аднак эпоха постмадэрну любіць гуляць з тэмай ісціны — адзіна правільнае рашэнне ў яе сістэме немагчымае. Таму ў тэксце выбіраюць толькі аднаго мудраца, але яго мудрасць пасля ставіцца пад сумнеў. На гэтым адпаведнасць правілам казачнай мадэлі парушаецца. Са з'яўленнем другога прэтэндэнта ўсё перакульваецца з ног на галаву. Яго адказы падаюцца недназначнымі — «быццам бы» правільнымі, да таго ж, ён мяняе ролю і сам пачынае загадваць загадкі хану Ісміраю. У выніку ж выяўляецца, што мудрэц Міамунямунь — гэта кот Міамурмарор, у чым пазнаецца карнавальны код.

«Усмешка Жалобнай Каралевы» спадабаецца чытачам шматлікімі камічнымі момантамі, а таксама сваёй шматузроўневай іранічнасцю. У канцэпцыі класічнай літаратуры высмейванне мае мэту выкрыцця, асуджэння, барацьбы з негатывам у грамадстве. Для С. Мінскевіча як аўтара-постмадэрніста абсурднымі, а таму вартымі іроніі, могуць быць абсалютна розныя рэчы. Таму ў творы высмейваецца як тыповая бюракратыя вялікаханскай канцыляры, так і неканструктыўнасць філасофаў. Цікава, што аўтар не змагаецца ні з першым, ні з другім. Для яго характэрна постмадэрнісцкая пазіцыя плюралістычнага прыняцця, але прыняцця іранічнага, у якім ёсць адчуванне абсурднасці, неадэкватнасці. Як, напрыклад, у апісанні дзейнасці вялікакняскай канцыляры, асноўным відам якой з'яўляецца дынамічная змена картак з надпісамі кшталту «У Першага Візіра», «Трэнірую памяць», «Абед» і «Сон, спрыяльны для засваення ежы». Гэтыя надпісы трапна акцэнтуюць бюракратычную рэальнасць, якая існуе па-за часам.

Аповесць «Усмешка Жалобнай Каралевы» на працягу ўсяго разгортвання сюжэта актыўна трымае фокус чытацкай увагі. Эфект дасягаецца тым, што перад героямі, якія выконваюць глабальную місію выратавання людзей, рэгулярна паўстаюць больш лакальныя задачы: пераплысці раку, перадаць вугра чароўнага смаку Хану, знайсці шаўкоўніцу, зразумець, на якім з трох дрэваў растуць ягады шчасця, выкрасці слязу з белага каменя і г. д. У час іх вырашэння змяняецца прастора, здараюцца розныя прыгоды, адбываюцца новыя знаёмствы. Такім чынам, сюжэт развіваецца дынамічна, пры гэтым усе падзеі звязаныя ў адзін вузел, падпарадкаваныя вырашэнню місіі.

У прасторы тэксту, безумоўна, шмат элементаў казкі. Ёсць зладжанасць, дабрыня, накіраванасць да ўсталявання гармоніі. Ёсць магічныя расліны, жывёлы і прылады. Ёсць добрыя героі. І ўсё ж «Усмешка Жалобнай Каралевы» — гэта постмадэрновая квазіказка, казка, хэпі-энд якой не зусім традыцыйны. Усе фінальныя рашэнні тут можна смела пазначаць прыстаўкай «звыш». Місія герояў не проста выканана, а перавыканана. Людзі вызваленыя, пасля чаго запускаецца механізм дабра, якое распаўсюджваецца з неверагоднай хуткасцю. Злосна-тужлівая Паляндра не знікае ў бездані і не патанае ў балоце назаўжды, чаго можна было б чакаць ад фэнтэзі. Яна пераўтвараецца ў чароўную жанчыну. Кожны з герояў мадэліруе сабе прыгожую жыццёвую перспектыву, увасабляючы, такім чынам, мару пра гармонію. Бедалдай збіраецца ажаніцца з белаваласай дзяўчынай, якая колькі хвілін назад была пачварнай прыслужніцай Паляндры. Пры гэтым не толькі ўладкоўвае сваё асабістае шчасце, але ажыццяўляе частку супермісіі — замацоўвае мараторый на кепскія ўчынкі і кары ў ханстве Ісмірая. Злу канец.

Іншымі словамі, фінал тэксту нечаканы. Ён здзіўляе і падзіцячы радуе. У ім ёсць матыў зноў знойдзенага страчанага раю, пошукі чалавекам якога бясконцыя і актуальныя заўсёды.

**Алена МІКУС**

# З цэлым народам гутарку весці

Прачытаўшы кнігу Зіновія Прыгодзіча «Постаці: З цэлым народам гутарку весці…», парадавалася за аўтара: плён яго працы важкі і годны. Радуюся і за чытачоў, якія атрымаюць мноства ўражанняў, багата матэрыялу для роздуму, асэнсавання прачытанага, а таксама насалоду для душы.

**Ірына РУДКОЎСКАЯ**

Леў Талстой гаварыў, што пісьменнікі з часам перастануць выдумляць і стануць апавядаць пра тое, што ім сустрэлася цікавага ў жыцці. Гэтае прароцтва і ўвасобіў вядомы публіцыст Зіновій Прыгодзіч. У кнізе інтэрв'ю-нарысаў ён стварыў цэлую галерэю партрэтаў выдатных дзеячаў беларускай культуры, нашых сучаснікаў. Некалі паэт канстатаваў: «Вялікае бачыцца на адлегласці». Так, на адлегласці прасцей: час сам выбірае і пакідае ў гісторыі вялікіх. А вось убачыць гэтых самых вялікіх у сучасніках, падаецца, куды складаней. Зіновій Прыгодзіч паставіў перад сабой нялёгкую задачу. Але яе выдатнаму вырашэнню спрыяла многае: багаты журналісцкі досвед, асабісты талент творцы, глыбокая назіральнасць.

Каб героі інтэрв'ю раскрыліся перад намі, каб мы маглі прасачыць іх жыццёвы шлях, ацаніць здзейсненае імі, убачыць іх ідэалы, іх разуменне сэнсу жыцця, аўтар павінен быў глыбока вывучыць праблемы той галіны мастацтва, якую прадстаўляе яго герой. А гэта ж тытанічная праца. Зіновій Прыгодзіч даў усебаковыя партрэты-біяграфіі дзесяці выдатных творцаў, якія прадстаўляюць розныя сферы сучаснай беларускай культурнай прасторы. Гэта Валерый Анісенка, Міхась Дрынеўскі, Марыя Захарэвіч, Леанід Захлеўны, Адам Мальдзіс, Іван Міско, Міхась Міцкевіч, Георгій Паплаўскі, Янка Сіпакоў, Анатоль Сульянаў. Тут і мастак, і народная артыстка, і рэжысёр, і пісьменнік… Прозвішчы герояў кнігі гавораць самі за сябе. Бо што ні прозвішча, то асоба, без якой немагчыма сёння ўявіць нацыянальную культуру.

Дзякуючы кнізе чытач зможа пашырыць сваё ўяўленне пра стан сучаснага беларускага мастацтва, зразумець тыя задачы, што стаяць перад ім, а таксама ўбачыць у героях нарысаў не толькі незвычайна таленавітых асоб, але і зусім простых, зямных людзей. Вельмі кранальнае, да прыкладу, інтэрв'ю з Марыяй Захарэвіч. Геніяльная актрыса, народная артыстка рэспублікі, якая стварыла на сцэне непераўзыдзеныя вобразы гераінь класічнай беларускай і сусветнай літаратуры, са шчырым замілаваннем згадвае сваё дзяцінства, блізкіх людзей, родную вёску. Падкупляе яе аповед пра бацькоўскую хату: «Хатка, як бачыце, невялічкая — на адзін пакой… Столь нізенькая, вокны маленькія. Але тады, у суровыя пасляваенныя гады, нам і такая хата здавалася сапраўднай святліцай. Як радасна нам тут было, як светла!.. Для мяне гэтая хата — не проста лецішча. Гэта — мая памяць, мая душа, мой найдаражэйшы скарб».

А вось перад намі старонкі кнігі, прысвечаныя незабыўнаму Янку Сіпакову, якога, на вялікі жаль, няма ўжо сярод нас. Якім чалавечным паўстае ён з нарыса «Гэта ж якая радасць — ствараць жыццё!» Наколькі глыбей зразумела я свайго любімага пісьменніка, перапоўненага беларускасцю, заклапочанага станам роднай мовы, калі ён з болем у душы прамаўляе: «Мы ж пакуль што абыякавыя да свайго роднага слова. І таму крыху вусцішна робіцца, калі чытаеш, як, да прыкладу, японскі славіст Рунасукэ Курода піша пра нас: "Не разумею гэтай ціхай і таямнічай краіны, жыхары якой грэбуюць сваёй мовай"».

Чалавекам энцыклапедычных ведаў, вялікім патрыётам Бацькаўшчыны, носьбітам і праваднікам беларускасці паўстае перад намі Адам Мальдзіс. Можна ганарыцца ўжо адным тым, што ён наш суайчыннік. Упэўнена, нам яшчэ будуць зайздросціць нашчадкі, што мы жылі ў адзін час з ім.

Алесь Карлюкевіч у прадмове да «Постацей…» піша: «Гэтая кніга, маю спадзяванне, зойме адметнае месца ў беларускім прыгожым пісьменстве… Бо яна пра тых, каго мы называем Творцамі, Падзвіжнікамі нацыянальнай культуры». Вельмі трапна!

Перагорнутыя старонкі кнігі. Перагорнутыя, здаецца, цэлыя пласты жыцця. Колькі ж тут мудрасці знойдзе ўдумлівы чытач!

Вымалёўваецца з кнігі і вобраз аўтара, чалавека рознабаковага, адукаванага. Зіновій Прыгодзіч — асоба, што ўмее бачыць сярод сваіх суайчыннікаў




лепшых з лепшых, значных для культуры Беларусі. Гэтая якасць уласціва людзям вялікага сэрца, якія нібы кажуць нам: вось яны, Постаці, цягніцеся да іх, раўняйцеся на іх. Вось яны, тыя, хто ў наш меркантыльны час захоўвае сапраўдныя каштоўнасці, не здраджвае ні сабе, ні Бацькаўшчыне.



## Наталля РУСЕЦКАЯ

***

*Стрэлам перуновым —*
*уварвайся ў мой сон!*
*Святлом месяцовым —*
*прасачыўся ў мой дом!*
*Пазнала цябе па вачах,*
*пазнала цябе па руках.*
*А раніца запытала:*
*— З кім ты, Купала,*
*ноч начавала?*

***

*замыкаеш мяне*
*у клейкім сваім паглядзе*
*адчуваю*
*як ападаюць крылы*
*праз тысячы год*
*нехта знойдзе*
*кроплю бурштыну*

***

*хачу быць дрэвам*
*каб ты да мяне туліўся*
*мае галіны*
*цёплымі лашчыў далоньмі*
*каб побач стаяў*
*і не ведаў*
*што я — гэта дрэва*
*якое каханнем*
*цябе ахінае*
*і ценем*

***

*Усмешка сонца*
*на далоні*
*падваконня,*
*і неба высокае —*
*як нідзе.*
*Смак кавы*
*глыбокі*
*і непаўторны,*
*і ранак-каханак*
*бліскучай расой*
*на траве.*
*Мой рай*
*маленькі*
*на круглай*
*(як кажуць)*
*зямлі.*
*Ці тут калісьці*
*чужыя нам,*
*іншыя*
*людзі, яшчэ*
*жылі?..*

***

*недарэчны*
*бязмэтны*
*рух*
*рукі*
*маёй*
*у паветры*
*не набраць*
*у прыгаршчы*
*ветру*
*не ўлавіць*
*у жмені*
*завеі*
*дрыжаць*
*веі*
*сталею*

***

*імя*
*твайго*
*смак*
*ажынавы*
*чую*
*на вуснах*
*лісты мае —*
*кажаны*
*адлятаюць*
*у пустку*
*дачакаюся*
*спелай пары*
*ягаднай*
*наталю*
*вусны*
*сасмяглыя*
*горкай*
*ягадай*

***

*пачатак*
*знаёмства:*
*нібы*
*выпадкова —*
*размова.*
*зусім*
*нечаканы*
*працяг —*
*ліставанне:*
*знаёмства*
*нанова.*
*і ў свеце*
*тым —*
*папяровым,*
*мы,*
*як старыя*
*знаёмыя,*
*чытаем*
*усё*
*паміж*
*словамі.*



## Алег САЛТУК

### Вясновае

*Шуры-муры скончылі віхуры,*
*Гулкі трэск спынілі маразы.*
*Вочы дзень ад сонейка прыжмурыў,*
*Выглядаюць коцікі з лазы.*

*Скрозь пупышкі дружна набрынялі —*
*Хутка сокі пойдуць хадуном.*
*А святла сягоння столькі ў далях,*
*Хоць вазьмі і пі яго набгом.*

*Ручаёў вясёлая навала*
*Загуляла з вечара да дня.*
*І душу ізноў апанавала*
*Шыр, і вышыня, і глыбіня.*

### Драч

*Каб табе заклала горла, драч:*
*Ну чаму ля плота ты сквярэшся?*
*За папрок, браток, мяне прабач,*
*Адкажы, што хочаш ты нарэшце?*

*Знаю, прыпазнілася цяпло,*
*Лугавіны маразы абселі,*
*А ў цябе не зладжана жытло*
*І твае паджылачкі скалелі.*

*Не сквярчы дарэмна, не крычы:*
*Наглуха забіты вокны ў хатах.*
*Мусіць, там сядзяць адны сычы —*
*Палахліва, вусцішна, зацята.*

*Ім усім у шчыліны не дзьме,*
*Не гняце халодная трывога…*
*Колькі яшчэ ўпартасці ў зіме,*
*Колькі абыякавасці многа!*

### Княгіня

*Можна думаць, славянка ці не:*
*Не сказалі дагэтуль аналы,*
*Ці сплыла яна па Дзвіне,*
*Ці другую раку адшукала?*

*Як бы там ні было, а двары*
*Тут з'явіліся да княгіні.*
*Пацяклі дымы на зары*
*І змяшаліся з небнай сінню.*

*Нараджаўся Віцебск здавён.*
*А цяпер працуе, святкуе.*
*І званоў малінавы звон,*
*І фанеру эстрадную чуе.*

*І ніколі наяве і ў сне*
*Не прысніць ён і не пабачыць*
*Легендарную Вольгу ў чаўне,*
*Яе вояў вясёлых, гарачых.*

*Будуць рушыцца храмы і зноў*
*Ажываць для любові і веры.*
*І аналы праз цемру вякоў*
*Нам адчыняць забытага дзверы.*

### Рай

*Там рэха будзіць цішыню*
*І на зары звіняць крыніцы,*
*І з фантастычнага агню*
*Распавіваюцца зарніцы.*

*Там птушкі глушаць нечы брэх*
*І побач не шыпяць гадзюкі.*
*І радасць дорыць добры смех,*
*Палоняць колеры і гукі.*

*Там пахне свежаю раллёй.*
*І гэта ўсё завецца раем.*
*Там паміж небам і зямлёй*
*Душа знаходзіць, што шукае.*



*Фота Кастуся Дробава*



## Святлана КУЛЬ

### Фантан

*У фантан, прысвечаны дзеве,*
*У магічны фантан дэ Трэві,*
*Ці зімою, а можа, улетку*
*Я калісьці кіну манетку,*
*Каб вярнуцца ў горад палацаў,*
*Акведукаў, мастоў і п'яца,*
*А пасля паеду дадому,*
*Дзе душу я кінула ў Нёман —*
*Каб застацца.*

### Уцёкі

*А на крыжы варанога*
*Зіхаціць шляя —*
*У цябе свая дарога,*
*У мяне — свая!*
*Жаль пярсцёнкам закруціла,*
*Кінула на шлях,*
*Пашукай яго, мой мілы,*
*У чужых краях!*
*Ад вачэй тваіх глыбокіх,*
*Ад тваёй маны*
*Завязе мяне далёка*
*Конік вараны.*
*Разамкнуў замкі і звёны*
*Залаты ланцуг,*
*Я паеду ў край зялёны,*
*У зялёны луг!*
*Стужкай круціцца дарога —*
*Жоўтая змяя,*
*Вось яшчэ зусім нямнога,*
*І на волі я!*
*Вараны ляцець не хоча,*
*Быццам назнарок,*
*У яго пустыя вочы*
*І не конскі скок.*
*А наперадзе някельны*
*Залаты ланцуг...*
*Чорны конік карусельны*
*Замыкае круг.*

### Гульні з часам

Ірыне Шыбека

*Брукаванай цеснай вулкай,*
*Дзе смуга ўначы дрыжыць,*
*Кожны крок, як рэха, гулкі,*
*А на вокнах вітражы,*
*Дзе старым жалезам клямкі*
*Не блішчаць і не звіняць,*
*Аканіцаў ліштвы-рамкі*
*Зачыняючы роўна ў пяць,*
*Дзе вуглём каміны топяць,*
*Дзе патэльняў ззяе медзь,*
*Дзе разгубленай Еўропе*
*Многа год яшчэ сталець,*
*Можа, удзень, а можа, ночу —*
*Як заўгодна варажбе,*
*У дагледжаны дамочак*
*Завітаю да цябе.*
*Ты накрыеш стол увішна:*
*Сыр, аладкі, піва гляк,*
*Яблыкі, варэнне з вішні,*
*Кава будзе і каньяк.*
*Будуць таяць свечкі з воску*
*І самота дзён маіх —*
*За бяседай па-сяброўску*
*Пагаворым удваіх*
*Пра Эразма з Ратэрдама,*
*Пра Парыж і Авіньён,*
*Пагуляемся з гадамі —*
*Ці то ява, ці то сон.*
*У цябе ў дамочку ўтульна,*
*Дрэва, зёлкі і бурштын*
*Падыграюць нашым гульням*
*Недзе пяць ці шэсць гадзін.*
*Апасля пайду дадому,*
*Да сваіх часоў сівых,*
*Дзе за ратушай знаёмай*
*Ёсць падворак мар маіх.*
*Там мае палотны сохнуць,*
*Печка з кафлі, лава, стол,*
*І глядзіць прыветна ў вокны*
*Неразбураны касцёл,*
*Фарбы сцёртыя ў паўмісах,*
*Пахне пушчаю пакост...*
*Ты прыходзь, я побач, блізка —*
*За Скарынаю наўпрост.*
*Пачытаем, можа, вершы*
*Ці памарым ні аб чым,*
*Ды аб гэтым дваццаць першым*
*Мы з табою памаўчым...*

***

*Стракатым ветрам цешыцца Гародня,*
*Гуляе восень з сонцам і дажджом,*
*Мой парасон чырвонаю паходняй*
*Мяне прывёў у твой халодны дом.*

*У ім вятрыскі вымелі спагаду,*
*У ім дажджы слязьмі закрылі шкло,*
*І на падлозе ў колер шакаладу*
*Маіх слядоў мо вечнасць не было.*

*Нас восень паспрабуе залагодзіць,*
*Заслаць чырвоны ходнічак лісцём,*
*Каб мне не прыпыніцца на ўваходзе,*
*Не абмінуць такі знаёмы дом.*

*Суцішне вецер, каб усё збылося,*
*Дождж, нібы котка, ляжа каля ног.*
*«Дзеля мяне, прабач», —*
*прашэпча восень*
*І мокрым пальцам ткне дзвярны званок.*

# Віктар СУПРУНЧУК

# След на небе

## Апавяданне



Фота Кастуся Дробава

Самалёт плыў па небе, чапляючы крыламі аблокі. Здаваўся цацачным і нерэальным. Хутка ён знік, спярша ператварыўшыся ў бачную толькі для яе кропку...

Сям'я ў іх была вялікая і бедная. Бацька працаваў у паляводстве, маці — на ферме. Зараблялі мала. Жылі за кошт прысядзібнага ўчастка. Курэй трымалі, парсюка, карову. Не панавалі, але і не галадалі.

Калі Каця скончыла школу, пра інстытут нават і ў галаве не было. Атэстат быў не надта, бо думала больш пра агарод, чым пра навуку. Вырашыла атрымаць «грашовую» прафесію і павезла дакументы ў вучылішча будаўнікоў — на тынкоўшчыцу.

Здала свае паперы ў прыёмную камісію і, купіўшы марожанае, гуляла па горадзе, здзіўляючыся ягонай прыгажосці. Усё для яе было незвычайным: вялізныя дамы, вітрыны магазінаў на кожнай вуліцы, тралейбусы, адзетыя па-святочнаму людзі, хоць і быў будзень. Ад жанчын пахла парфумай, кветкамі, а не як ад мамы, калі тая прыходзіць дахаты са свінафермы.

Яна стаяла ля ўнівермага, патрохі злізваючы марожанае, і ўбачыла сябе ў вітрыне, нібы ў вялікім люстэрку. І здзівілася: не пазнала. Няўжо гэта яна? Высокая, стройная, з доўгімі, амаль да клубоў, светлымі валасамі, якія былі нібы салома спелага, прагрэтага сонцам жыта. Вочы ў яе зялёныя, што капуста. Хоць у мамы і таты вочы блакітныя. У сясцёр і братоў такія ж. А ў яе — быццам сапраўды ў капусце знайшлі.

Нехта крануў за плячо. Каця ад нечаканасці ўздрыгнула, марожанае халодным камяком перацiснула горла, і яна закашлялася, запырхала. Побач стаяў хлопец ці мужчына. Твар малады, а ў валасах сівізна. Ён так уважліва глядзеў на Кацю, што тая спалохалася і ўжо сабралася даць лататы. Да аўтастанцыі было недалёка, а яна нездарма бегала хутчэй за ўсіх у класе. Як скокне зараз, паспрабуй дагані!

Хлопец правёў рукою па сваім твары, нібыта змахнуў з яго хмурны выраз, і на вуснах узнікла ўсмешка. Пацяплелі вочы, і Каці здалося, што яна недзе раней бачыла яго. Магчыма, але наўрад... Проста ў яго быў такі твар, сімпатычны, але зусім не запамінальны. Ніякай асаблівай рысы, што зачапілася б у памяці. Іншае — рукі. Яны былі ажно сінія ад татуіровак. Такія ж рукі ў Мікалая Казака з іх вёскі. Казалі, што ён адседзеў у турме больш як дзесяць гадоў. Дый жонку адтуль прывёз. Нібыта па кішэнях шнарыла, пакуль не злавілі.

Каця, зрэшты, была не з палахлівых. У крыўду не давала ні сябе, ні малодшых братоў і сясцёр. Яна з татам мяхі бульбы цягала з поля. Усё мінулае лета касіла сена, скірдавала салому. На руках мускулы, нібы камень. Хлопцы баяліся да яе падысці. Гэны паскуднік Міша Дунін, у якога маці Люба, а баба Дуня, быў палез да яе ў майку, дык Каця так ляпнула яго ў морду, што думалі везці ў бальніцу. Дзякуй Богу, ачухаўся.

Праз імгненне спалох мінуў, і яна ўжо спакойна, трымаючыся за некалькі крокаў ад гэтага хлопца, даела марожанае. Было вельмі цёпла, ад маладога зялёнага лісця дрэў, мноства кветак паветра згусцілася, ператварыўшыся ў незвычайны жыццядзольны напой, ад якога ўсё вакол здавалася цудоўным і вечным, хацелася верыць, што на зямлі толькі дабро, шчасце, любоў і павага між людзьмі.

— Што вам трэба? — спыталася Каця. І тое, што яна задала такое пытанне, разам з пабляклай ад шматразовага мыцця жоўтай кофтачкай і чорнай спадніцай, з якіх даўно ўжо вырасла, а на новыя не было грошай, — мама абяцала прыдбаць увосень, калі атрымаюць за буракі, — усё гэта красамоўна сказала, хто яна і адкуль.

Ён пасміхнуўся, чамусьці цяжка ўздыхнуў. Памаўчаў. Зноў пацяплелі вочы, якія на момант нібыта запарушыла пылам.

— Мяне зваць Рамуальдам. А цябе?

— Навошта вам? — здзівілася Каця. Навошта чужому чалавеку ведаць, як яе зваць? У вёсцы і так ведаюць, што яна Каця, Кацярына. «Горад — гэта гняздо распуснікаў і бандытаў», — некалі казаў, трошкі пацягнуўшы слівовай наліўкі, бацька, які, прыхмялелы, мог паразважаць пра мінулае і будучае, а цвярозы маўчаў, нібы вады набраўшы ў рот. Улічваючы, што браў чарку толькі на Каляды і Вялікдзень, то рэдка можна было пачуць з ягоных вуснаў слова. Таму блізкія і цанілі яго. Слова бацькі было законам.

У той дзень Каця, ап'янелая ад пахаў і відовішчаў горада, першай дарослай вясны і таму ўпэўненая ў сваім цвёрдым і непахісным характары, чамусьці памякчэла душой і не пабегла прэч ад гэтага ўсмешлівага, размаляванага татуіроўкамі хлопца.

Яна праводзіла позіркам тоненькую, як галінка бярозы, бялявую дзяўчыну і чарнявага худзенькага падлетка, што прайшлі міма, трымаючы адно аднаго за рукі, весела шчабечучы, быццам птушкі на дрэвах за яе спінай. Пазайздросціла ім і ціха сказала:

— Каця... Кацярына...

Яна назвала сваё імя, не ведаючы і не ўяўляючы, як і чым скончыцца іх знаёмства. Побач не было маўклівага таты і разумнай мамы, якія знаходзіліся, здаецца, зусім блізка: сто кіламетраў ад горада. Аднак цяпер яны былі вельмі далёка, а Каця адна стаяла на шумлівай вуліцы і шырока расплюшчанымі вачыма глядзела на белы свет: незнаёмы, загадкавы, страшны і цікавы. Ад яго нельга ўцячы, некуды схавацца і застацца такой, якой была дагэтуль. Каця нічога не магла прадбачыць...

Праз тыдзень Рамуальд прыехаў у вёску ў сваты. Пра што ён гаварыў з бацькамі — невядома, але Каця бачыла, як мама хавала пад падушкай тоўсты пачак грошай. Тата маўчаў, сядзеў, схіліўшы галаву між каленяў.



Каця потым не раз думала, але ніколі не спытала ў бацькоў, чаму яны згадзіліся выдаць яе за Рамуальда. Зрабіла сваю выснову... Восем дзяцей. Яна — старэйшая. У хаце — бедната. Яны аддалі яе за грошы. У хаце заблішчэў экранам тэлевізар. У хлеў бацька паставіў новы матацыкл з каляскаю.

Яна ніколі не ўпікнула бацькоў. Дый што бачыла да свайго замужжа? Школа, агарод, свіння, карова, куры. Летам — сенакос, буракі, бульба.

Новае жыццё нахлынула вялізнай, агромністай хваляй, якая з чыстай вадой прынесла столькі смецця і бруду, што не раз узнікала магчымасць патрапіць пад гэты смярдзючы і цяжкі вал. Змяніць пакуль нічога нельга было...

У той дзень, калі яны пазнаёміліся, Рамуальд тры месяцы як вярнуўся з турмы. Пасля вяселля расказаў, што адбыў шаснаццаць гадоў. Гаварыў доўга, пацягваючы з чаркі каньяк. Сядзеў на канапе ў адных трусах: спіна, жывот, ногі — усё было сінім, у малюнках.

Яму было шаснаццаць гадоў. Маці яго моцна любіла і дазваляла шмат, разбэсціла. Ён ужо курыў, піў, начаваў часта ў суседкі, трыццаціпяцігадовай разведзёнкі.

Летнім вечарам з сябрамі зацягнулі знаёмую дзяўчыну ў цёмны парк і згвалцілі. І хоць нібыта яна была прастытуткай, але ўсе атрымалі вышэй галавы. Ён — больш за ўсіх, таму што нікога не баяўся і на ўсіх пляваў. Лічыў сябе дужым і смелым. Было нават цікава трапіць у турму, каб увесь горад ведаў, што ён, Рамуальд Цвікун, не абы-хто. Спярша сядзеў у калоніі для непаўналетніх. Не вылазіў з карцара, не хацеў працаваць. Потым — дарослы этап. Захварэў на сухоты. Комі, Калыма, Магадан. У калоніях яму некалькі разоў дадавалі новыя тэрміны за непаслухмянасць, за бойку дый шмат яшчэ за што... Была адна маці, больш нікога на свеце...

Ён раптам заплакаў, доўга маўчаў... Маці на свой мізэрны заробак настаўніцы цягалася за ім па калоніях. Летась памерла, не дачакалася. З'еў рак...

Каця не ўсё разумела, але пасталелым розумам адразу адчула: яму трэба выгаварыцца, ачысціць душу, знайсці нейкі спакой і ўпэўненасць у сваім жыцці, якіх ніколі не меў. Вочы ў Рамуальда былі стомленыя і твар як у яе бацькі, якому мінула пяцьдзясят. Тады яна падумала, што дапаможа яму і будзе адданай жонкай. У іх ужо ёсць сям'я, яна вылечыць яго, стане апірышчам. Цёплы кут. Як у мамы з татам. Каб толькі была згода і любоў.

Ён яе кахаў, не сварыўся. Размаўляў ціха, ніколі не павысіў голас. Кожную суботу перад сном клаў на падушку падарунак. У яго такая была завядзёнка, нічым яе не тлумачыў.

Каця прывыкла, што яны жывуць у вялізнай чатырохпакаёвай кватэры, большай, чым іхняя хата ў вёсцы. Каля пад'езда з ранку да вечара стаяў аўтамабіль з вадзіцелем. Яна ездзіла па горадзе, у вёску. І аднойчы ўбачыла там на двары «Жыгуля», у якім весяліліся яе браты і сёстры, а маці з бацькам анучкамі шаравалі машыну, не давяраючы дзецям такую адказную справу.

Праз год Каця нарадзіла сына, кропля ў кроплю падобнага да Рамуальда. Аднак з бальніцы яе з дзіцём забіралі бацькі. У раддом адвозіў Рамуальд. За тыдзень, што яна там знаходзілася, ніводнага разу ён не праведаў, не прынёс перадачы, як іншым суседкам па палаце іхнія мужы. Ёй было крыўдна. Яна плакала. І калі ўбачыла на ганку адных бацькоў, так зарыдала, што паклікалі ўрача, каб яе супакоіў.

Яны селі на матацыкл, таму што бацька яшчэ не атрымаў пасведчання, каб вадзіць «Жыгуля», і памаленьку паехалі на кватэру. Маці спрытна спавіла дзіця, якое смачна чмокала соскай-пустышкай, паклала ў прыгожую, зробленую быццам на мастацкую выстаўку, калыску. Яе з месяц назад прыцягнуў аднекуль Рамуальд. Часам, нападпітку, падыходзіў да калыскі, калыхаў, мармычучы пад нос нейкую мелодыю. Па твары блукала блазнаватая ўсмешка. Потым засынаў, схіліўшы над калыскай галаву. Магчыма, уяўляў, што там ужо спіць сын...

Каця сядзела ля калыскі, глядзела, як завіхаецца маці, ціха спяваючы калыханку, радуецца, а ў яе да грудзей падступала гаркота. Слёз ужо не было, крыўда засціла вочы. У галаве няспынна гучала пытанне: «Як ён мог так зрабіць?..» Яшчэ ўчора ўяўляла, як сустракае Рамуальд іх на ганку з кветкамі, трымае на руках сына. Нічога гэтага не было.

— Гэта табе, — маці паклала перад ёй паперку і адвярнулася да дзіцяці. У яе затрэсліся плечы, і Каця зразумела, што маці плача.

Яна асцярожна, са страхам, разгарнула паперку, нібыта гэта было штосьці небяспечнае, забароненае, прачытала, і слёзы паліліся з вачэй. Рамуальд пісаў: «Сына назаві Раманам. Прабач, што не змог сустрэць вас з бальніцы. Я вас люблю. Прабач...»

…Неяк яны гулялі па горадзе. Нетаропка ішлі па вуліцы, цяжарная Каця падумала, што яна, мабыць, шчаслівая. Ёй зайздросцяць аднакласніцы. Мама пакінула свінаферму, увесь час дома. У хаце дастатак. Браты і сёстры не адзеты больш у транты. Галоўнае ж, Рамуальд добры, спагадлівы чалавек. Ёй здаецца: усё расказанае ім пра турму — казка, байка, якую ён прыдумаў, каб задурыць ёй, маладой дзяўчыне, галаву.

Яны ідуць, і з Рамуальдам часта вітаюцца. Яна здзіўляецца: адкуль у яго столькі знаёмых людзей? Ён загадкава ўсміхаецца і толькі пяшчотна яе цалуе.

— Мы з табой паляцім далёка-далёка вось на такім самалёце. — Ён паказвае рукой у неба, у якім імкліва рухаецца ледзь прыкметная кропка. — Будзем жыць у іншай краіне і радавацца жыццю. У мяне шмат грошай. Іх хопіць і нам, і нашым унукам...

— Адкуль у цябе грошы? — пытаецца Каця.

— Зарабіў... — шэпча ёй на вуха Рамуальд. — Толькі нікому не кажы.

Яны ідуць і смяюцца, гледзячы на блакітнае неба, трошкі стомленае пасля доўгага летняга дня. За шматпавярховымі дамамі плыве смуга, хавае прытухлае сонца. Каб так было ўсё жыццё...

Назаўтра Каця ўжо ведала, што Рамуальд з сябрамі, былымі крымінальнікамі, адзначаў за горадам у кафэ нараджэнне сына. Моцна п'яны, завязаў бойку з міліцыянерамі, якія выпадкова зайшлі ў гэтае кафэ. Яго спрабавалі супакоіць. Дарэмна. Рамуальд дастаў з кішэні зброю... Шаснаццацігадовы турэмны ўрок нічому не навучыў… Ён быў паранены і памёр у бальніцы.

Усю ноч Каця то плакала, шкадуючы сябе і сына, то няўцямна глядзела перад сабой, нічога не бачачы. За акном і ў душы была чарната. Хацелася таксама памерці.

Раніцай ціха адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшлі бацькі. У маці валасы ўскудлачаны, халат расхрыстаны. Бацька няголены, на твары сівая шчэць.

— Прабач, дачушка, прабач! — загаласіла маці. — Прабач нас, дурняў...

І раптам бацькі апусціліся на калені. Маці працягнула рукі да дачкі, гаварыла, гаварыла, а бацька, унурыўшыся тварам у падлогу, як заўсёды, маўчаў, зрэдзь змахваючы з вачэй слязу.

— Прабач! Гэта ўсё грошы, праклятыя грошы! Гэта мы вінаватыя! Бядота, галота... Хацелася табе шчасця. За грошы аддалі мы цябе гэтаму іраду. Прабач нас! Паедзем дахаты. Вас вырасцілі васьмярых і маленькага падымем на ногі...

Праз некалькі гадзін, зачыніўшы кватэру на ўсе замкі, Каця з сынам села ў каляску матацыкла, і яны паехалі. Ужо за горадам яна пачула далёкі гуд самалёта, які, пакідаючы за сабой белы пушысты шлейф, паступова знікаў у далечыні. Яшчэ імгненне — і цёмнай кропкі ў небе не стала. Трохі пазней Каця азірнулася: белы след амаль рассеяўся.



# Тое, пра што вы не чулі

Голас Марыі Дуброўскай добра вядомы слухачам канала «Культура» Беларускага радыё. Яна знаёміць з кніжнымі навінкамі, яе аўтарская праграма «Кухня» расказвае пра любімыя стравы творцаў, іх густы ды жыццёвыя клопаты, яна дакладна ведае, што будзе ў чарговым нумары «Маладосці» і ў каго з класікаў на наступным тыдні юбілей. Адчуваецца, што Марыя сапраўды любіць тых, пра каго распавядае. А калі чалавек займаецца любімай справай, то імкнецца рабіць яе найлепшым чынам. І гэта не застаецца незаўважным. «ЛіМ» прапануе вашай увазе гутарку Таццяны Сівец з Марыяй Дуброўскай.

**— Многія маладыя людзі выбіраюць журналістыку, марачы пра славу, зорных гасцей і гламурныя тэмы. Пасля заканчэння Інстытута журналістыкі такіх чакае расчараванне ў прафесіі. Калі ты ішла на журфак, ведала, на што «падпісваешся»?**

— Я таксама марыла пра славу і тэлебачанне, уяўляла, як кажу народу праўду, бачу ўдзячныя вочы гледачоў... *(смяецца)* Але перад паступленнем трэба было прынесці колькі публікацый. Я напісала пра нейкую падзею, мне параілі аднесці нататку ў раённую газету, і пасля з'яўлення публікацыі я адчувала, з аднаго боку, бязмежнае шчасце, а з другога — упэўнена з'явілася падазрэнне, што не ўсё так лёгка, як марылася. У дзявятым класе я дасылала артыкулы ў «Советскую Белоруссию», «Переходный возраст» і «Раніцу» — часам друкавалі, часам — не. Але паступаць я не перадумала, недабрала балаў на спецыяльнасць «Аўдыёвізуальныя СМІ» і пайшла на «друкаваныя». Пра тэлебачанне я не шкадую, бо сёння маю магчымасць больш займацца літаратурай, тым, што мне сапраўды падабаецца. У адрозненне ад некаторых маіх калег я не адчуваю расчаравання ў прафесіі, як бы складана часам ні было. Я сябе ў іншым месцы, шчыра скажу, не ўяўляю ўвогуле!

**— А ты ведаеш, што згодна з амерыканскімі даследаваннямі прафесія рэпарцёра лічыцца самай непрэстыжнай у адносінах «стрэс — аплата»? Ці адчуваеш ты, што сёння моладзь не так імкнецца на журфак, як гэта было яшчэ гадоў дзесяць таму?**

— Не магу пагадзіцца цалкам. Адкрываюцца новыя спецыяльнасці, даволі вялікі конкурс. Мне здаецца, што ілюзіі ў большасці адносна журналісцкай прафесіі нікуды не зніклі. Канечне, сёння журналісцкай шмат не заробіш, знікае адчуванне «чацвёртай улады», ды і самі журналісты не заўжды могуць адаптавацца да найноўшых тэхналогій. Акрамя таго, у адрозненне ад заходняй, дзе найперш прадстаўлены аналітычны бок, айчынная журналістыка больш арыентаваная на інфармацыю, а не на творчыя партрэты.

**— Дарэчы, твае калегі сёння працуюць не толькі ў Беларусі. Я ведаю журналістаў, якія з'ехалі ў Кіеў, Берлін, Нью-Ёрк... Ці марыла ты працаваць за мяжой?**

— Не марыла. Хаця на апошніх курсах журфака мне карцела паехаць папрацаваць у Расію. Хацелася паспрабаваць сябе ў забаўляльных ці забаўляльна-інфармацыйных праграмах, ток-шоу з псіхалагічным ухілам. Магчыма, і гэтая мара аднойчы здзейсніцца, але...

**— Але пакуль ты працуеш з культурай і літаратурай! Часам ад студэнтаў-журналістаў можна пачуць енк: навошта мне тая літаратура, лепш дайце больш гадзін спецыяльнасці. Для цябе літаратура стала спецыяльнасцю ці нечым большым?**

— У мяне склалася абсалютна фантастычна: маімі выкладчыкамі былі асобы, якія вельмі шмат зрабілі ў літаратуры, як, напрыклад, Пятро Васючэнка. Ён прапанаваў нам, студэнтам-першакурснікам, пісаць навуковыя работы для канферэнцыі. Паступова стала знаёміцца з літаратурнай крытыкай, якую выкладала Наталля Кузьміч, з'явілася жаданне папрацаваць і ў гэтым рэчышчы. Так пачалося маё захапленне літаратурай. Далей — болей. Калі выкладаў у нас тэорыю літаратуры паэт Арцём Кавалеўскі, нарадзілася амаль дзіцячае захапленне тым, што паэзія можа быць не толькі пра вясковыя хаты, лугі, палі ды сенажаці, але і пра «крыжыкі бэзу, белыя пальцы»... Я злавіла сябе на тым, што я адчуваю гэтыя радкі, а таксама маю магчымасць бачыць іх аўтара! З'явілася разуменне, што беларуская літаратура — вось яна, побач. Я стала хадзіць на імпрэзы, цікавіцца літаратурным працэсам. Шкада толькі, што часам бракуе сістэматызаваных ведаў, той філалагічнай базы, але я заўжды маю магчымасць патэлефанаваць вядомаму літаратару і пацікавіцца яго новай кніжкай... А потым казаць знаёмаму: «Як?! Ты яшчэ не чытаў?..»

**— Каго з сучасных айчынных літаратараў ты адкрыла для сябе апошнім часам, каго раіш пачытаць сябрам ці калегам?**

— Больш цікаўлюся паэзіяй. Калі чытаеш вершы, можна адразу злавіць настрой. У мяне адзіны крытэрый якасці: калі баліць — значыць, добра. Прычым, боль не абавязкова выкліканы змрочнасцю верша. У таго ж Ігара Севяраніна безліч прыгожых вершаў, яго нават абвінавачвалі ў залішняй саладжавасці, але чытаеш — і адчуваеш гэты боль. Гэтак у кнігах маладой паэткі Насты Кудасавай, у шыкоўных вершах Ірыны Чарняўскай, літаральна месяц таму я адкрыла для сябе творчасць Алены Бабіч, рэдактара гродзенскага маладзёжнага праваслаўнага часопіса «Пакаленне». Прычым, яна піша «ў стол» і пакуль, на жаль, не збіраецца друкавацца. У лінгвістычным універсітэце, плёнам працы Пятра Васючэнкі, дарэчы, выйшаў зборнічак «ZАмовы», у якім таксама шмат цікавых аўтараў...

**— Калі ты сама спрабавала пісаць вершы, імкнулася іх апублікаваць?**

— Гэта было ў студэнцкія часы, і друкаваліся мае «грахі» ў студэнцкай газеце «Пер'е» разам з невялічкай прадмоўкай, у якой гаварылася, што «паэты пішуць вершы дзеля, паэткі пішуць вершы для». Я цалкам згодна, што мая паэзія «адрасная», у ёй выразна вымалёўваецца лірычны герой, так што гэта была хутчэй пэўная творчая сублімацыя. І цяпер, бывае, хочацца нешта напісаць, але я стараюся гэтае імкненне «задушыць» *(смяецца)*. Усё — у працу!

**— Сёння можна працаваць дома, па скайпе браць інтэрв'ю ў чалавека з Парагвая, напрыклад. Ці азначае гэта, на тваю думку, што журналіст — чалавек свету, якому часам не патрэбная нацыянальнасць?**

— З аднаго боку, гэта вельмі добра для развіцця СМІ, але для мяне ўсё гэта знішчае сэнс нашай прафесіі, бо немагчыма напоўніцу адчуць рэакцыю чалавека на тваё пытанні, зрабіць партрэтнае інтэрв'ю. Увогуле, у журналіста, які шчыра працуе ў Беларусі і імкнецца ў гутарцы з вядомым чалавекам выслізнуць за межы папярэдніх інтэрв'ю, паказаць яго прадстаўніком свайго народа, мусіць атрымацца штосьці выключна нашае.

**— У час, калі найбольшую цікавасць выклікаюць «скандалы, інтрыгі, расследаванні», ты распавядаеш пра айчынную культуру, пра кнігі, іх аўтараў. Ці шмат тых, каму гэта сапраўды патрэбна, і з якой рэакцыяй сутыкаешся ты і твае калегі з «Культуры»?**

— Ёсць боязь, што «ніхто не слухае», але надараюцца моманты, якія даводзяць, што наша праца — патрэбная. Большасць слухачоў «Культуры» — людзі літаратуры, мастацтва — я ведаю скульптараў і мастакоў, у чыіх майстэрнях пастаянна гучыць наш канал, яны часам тэлефануюць, дзякуюць. А «свае» слухачы бачныя асабліва падчас розных гульняў у эфіры, калі ты агучыў пытанне і не паспеў назваць нумар, а ў эфір ужо тэлефануюць. Ёсць людзі, якія ведаюць нумары ўсіх рэдакцый і дырэкцый на памяць. Сюрпрызам для мяне стала тое, што нас слухае вельмі шмат моладзі: так, днямі патэлефанаваў малады чалавек, які ехаў на працу на машыне, правільна адказаў на пытанне пра дзіцячую мянушку кампазітара і выйграў квіток на канцэрт. Я пытаюся: «Цікава вам пайсці туды?» — і ён адказвае: «Канечне, мне заўжды хочацца даведацца пра штосьці новае, незвычайнае». А ўначы на нашых хвалях можна паслухаць сучасную прозу, фантастыку...

**— Ці шмат літаратараў прыходзяць да вас у госці, прыносяць новыя кнігі, дзеляцца творчым клопатам?**

— Некаторыя нават дасылаюць кнігі па пошце. Насамрэч, здорава, калі аўтар тэлефануе і кажа, што ў яго прэзентацыя, напрыклад, альбо працуе так званае «сарафаннае радыё» — сталыя аўтары падказваюць імёны маладых, на якіх варта звярнуць увагу.

**— Ты спрабавала сябе ў тэатры «Жывое слова», пісала вершы, рэдагавала студэнцкую газету, была адным з аўтараў паспяховага праекта «Брама мар» у Інстытуце журналістыкі... Чаго б яшчэ хацелася «пакаштаваць»? Можа, хутка мы пачуем спявачку Машу Дуброўскую ці прыйдзем на тваю выстаўку?**

— Спяваць дакладна не буду, жывапісам не захапляюся... Люблю ствараць штосьці ўласнаручна, але цярпення не хапае на вялікія рэчы, таму раблю пацеркі, бранзалеткі... Хто ведае, што будзе праз гады, але мне хочацца працаваць менавіта ў радыйнай сферы і мець справу з беларускай літаратурай. На сёння ж найбольшае творчае задавальненне прыносяць аўтарскія праекты.

**— Пасля Інстытута журналістыкі ды чатырох гадоў на радыё ты можаш сказаць, у чым сэнс і мэта тваёй прафесіі?**

— Для мяне асабіста — гэта магчымасць данесці штосьці новае, пра што яшчэ не казалі і не чулі. Калі ў чалавека бракуе часу на кнігарню ці бібліятэку, я магу давесці яму, чаму варта прачытаць тую ці іншую кнігу, патрапіць на выстаўку... Вось нейкі юнак ускляў навушнікі і шыбуе па сваіх справах, а ты кажаш яму: «Азірніся! У цябе вольны вечар — чаму б не схадзіць на гэтую імпрэзу?» А потым сама ідзеш туды, бачыш мноства захопленых людзей і разумееш, што ў гэтым і ёсць сэнс таго, што ты робіш.

*Агледзіны*

# Гумарыстычны агарод «Вожыка»

**Алена ВАЯГА**

Нарэшце! Нарэшце «Вожык» дачакаўся цяпла! А то амаль паўгода правесці ў «норцы», занесенай снегам, — гэта вам не жартачкі. Вядома, увесь гэты час ён не толькі спаў, а шмат чаго напісаў, адрэдагаваў і намаляваў. А цяпер «Вожык» можа выправіцца ў госці да сваіх старых сяброў, да новых знаёмых. Але з пустымі рукамі да іх не пойдзеш, таму трэба пачынаць прыводзіць у парадак сваю сядзібу.

На гумарыстычным «агародзе» «Вожыка» — першыя «ўсходы» па-сапраўднаму вясновых твораў, ад якіх настрой, безумоўна, палепшыцца. Вось узышоў маляваны фельетон «Пільнуйце гіры, яны — залатыя!». Гэта дзіўныя і неверагодныя прыгоды Шуры Балаганава, Паніkоўскага і робата Бэндэра, якія ў пошуках металалому выпраўляюцца ў розныя куткі нашай краіны. Што з гэтага атрымаецца, даведаецеся ў красавіцкім нумары «Вожыка».

У гумарэсцы «Па-сваяцку» Барыса Кавалерчыка вы прачытаеце пра сямейныя стасункі ў калектыве адной фірмы. А Леанід Левановіч у гісторыйцы «Як заяц чалавека пабіў» расказа пра агрэсіўнага зайца, які прыручаў дзеда Аўхіма да зайчыхі. Парады пра тое, «Як правільна не мыць посуд», дасць Віктар Саланец.

Яркімі рознакаляровымі кветкамі, часам нават цэлымі букетамі красуюць карыкатуры. Малюнкі А. Гуцола, А. Карповіча, П. Козіча, Р. Богуша і іншых мастакоў. Таксама вы ўсміхнецеся з масавым малюнкам А. Каршакевіча «Крыху пра чалавека з каменнага веку» і яго «Актуальнымі карыкатурамі», «Пазітыўнай псіхалогіяй» А. Пятрова, падборкамі малюнкаў «Вясёлыя старты», «Кар-р-рыкатуры», «Будзьце здаровы».

На паэтычных вожыкаўскіх «градах» «узышлі» вершы і байкі. Растуць яны па ўсіх правілах — роўненька ў слупок, а рассмяшыць могуць кожнага. Такія аўтары, як М. Пазнякоў, М. Чарняўскі, А. Гарачоў, перакануюць у гэтым нават самага заўзятага скептыка.

У другім веснавым нумары «Вожыка» ёсць некалькі цікавых рубрык, якія пашыраць ваш вясёлы кругагляд. Напрыклад, з «Нашага інтэрнэту» можаце даведацца, як на розных мовах гучаць нашы выслоўі. Напрыклад, «Калі рак на гары свісне» на англійскай гучыць як «Калі свінні паляцяць», на румынскай — «Калі я сваю патыліцу ўбачу», а на фінскай —«Калі пекла замерзне». «Вясёлы слоўнік», які гэтым разам даслаў М. Дубовік, раскажа пра новыя значэнні знаёмых слоў. Так, *абабіць* — гэта ажаніць, *замарыцца* — летуценіць, *папсаваць* — слухаць сучасную музыку і г. д.

«Усмешкі» Міхася Слівы дапамогуць вам праславіцца сярод сваіх сяброў і знаёмых як чалавеку з выдатным пачуццём гумару, які заўсёды зможа расказаць нешта цікавае. «Ты не памятаеш, — пытае муж у жонкі, — таблеткі для ўмацавання памяці я ўжо выпіў ці не?»




Спадзяёмся, першыя веснавыя «гумарыстычныя ўсходы» вас парадуюць. А «Вожык» зробіць усё магчымае, каб яны раслі, квітнелі ды добра пладаносілі.

*Унікальны праект*

# На радзіме бацькі, у Навасёлках…

**Міхась ВУГАЛЕЦ**

Таленавіты беларускі мастак Аркадзь Астаповіч (1896 — 1941) — з пакалення творцаў, у лёсе якіх відавочнымі з'яўляюцца трагедыя, драматызм, уласцівыя іх часу. Яны — Аркадзь Астаповіч, Міхась Філіповіч, Мікола Дучыц, Генадзь Змуздзінскі, Саламон Юдовін, Яфім Мінін, Анатоль Тычына — прайшлі праз дзве рэвалюцыі, дзве сусветныя вайны. Шкада, што іх яркая мастацкая спадчына амаль не захавалася. А вось каля 300 твораў аднаго А. Астаповіча, якія захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, адлюстроўваюць і час з усімі яго перыпетыямі, і ўсю велічыню таленту легендарнага творцы.

Уваходжанне Аркадзя Астаповіча ў гісторыю беларускага мастацтва як з'явы адкрытай, відавочнай пачалося параўнальна нядаўна. Толькі ў 1960-я гады, праз два дзесяцігоддзі пасля смерці мастака, адбылася яго першая персанальная выстаўка. З'явіліся кнігі, у якіх былі дадзены грунтоўны аналіз творчасці. А напрыканцы мінулага года ў мінскім выдавецтве «Беларусь» у серыі «Славутыя мастакі з Беларусі» пабачыў свет альбом «Аркадзь Астаповіч». Аўтар тэксту і складальнік — мастацтвазнаўца Надзея Усава. Спрыянне ў падрыхтоўцы выдання аказалі родныя мастака — А. Смірнова (Мінск) і І. Нярэсава (Масква).

Частка жыцця А. Астаповіча прайшла на Пухавіччыне (1923 — 1929). Да гэтага часу мастак ужо меў адукацыю, пэўны творчы досвед. Яшчэ ў 1915 годзе ў Пецярбургу наведваў Малявальную школу Імператарскага таварыства заахвочвання мастацтваў, якой кіраваў Мікалай Рэрых. Настаўнікамі былі вядомыя рускія графікі: І. Білібін, П. Навумаў, А. Эберлінг. Разам з братам урокі сапраўднага мастацтва атрымлівала ў тыя гады і сястра Аркадзя — Зоя, якая была шмат маладзейшая за яго… У сярэдзіне 1922 года, пасля дэмабілізацыі з Чырвонай арміі, А. Астаповіч вярнуўся на радзіму бацькі, «у вёску Навасёлкі, каля Пухавіч, — як піша Н. Усава, — што пад Мінскам, дзе жыла сям'я». У Навасёлках мастак уладкоўваецца на працу настаўнікам матэматыкі, чарчэння і малявання ў сямігадовую працоўную школу. З гісторыка-дакументальнай хронікі Пухавіцкага раёна «Памяць» вядома, што яшчэ ў 1863 годзе тут было заснавана народнае вучылішча. У 1920 г. на яго базе была створана сямігадовая школа, у якой працавалі 9 настаўнікаў, займаліся каля 120 хлопчыкаў і дзяўчынак.

У 1926 — 1929 гадах у Навасёлках працаваў настаўнікам беларускі мовазнаўца Мікалай Шатэрнік (1890 — 1934). У тыя гады ён актыўна займаўся краязнаўчай работай, збіраў мясцовую лексіку. У 1929 г. выдаў «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны», куды ўвайшло і шмат «пухавіцкіх» слоў. З навасёлкаўскіх дыяментаў і такое: дарашаваты — брудна-карычневы, жаўтаваты. Як прыклад ужывання: «Наш конь дарашаваты».

Чытаем у Надзеі Усавай: «У гэтай беларускай вёсцы адбыўся раптоўны рывок, нечаканы «скачок якасці» яго графічных твораў, нараджэнне Астаповіча як самастойнага мастака. Навасёлкаўскі перыяд, гэта шчаслівае сямігоддзе, прынята лічыць лепшым у творчасці мастака. Навасёлкі сталі ціхай гаванню пасля гадоў вайны і блуканняў, другой пасля Петраграда светлай паласой яго жыцця. Шчаслівы шлюб (1924 год) са сваёй стрыечнай сястрой Нінай Якубовіч, удзел амаль ва ўсіх Усебеларускіх выстаўках, першае прызнанне, натхнёнае асваенне новай тэхнікі — лінарыта, нараджэнне сына-першынца — гэта зліццё асабістага шчасця і творчых поспехаў амаль нічым не азмрочана…»






Аркадзь Астаповіч «Маладзік», 1923 г.

У альбоме да «навасёлкаўскага перыяду» нас адрасуюць наступныя работы: «Ля ракі», «Маладзік», «Завадскія карпусы», «У гады разрухі», «Палёт», «Драпежнік», «У заапарку», «Чаплі», «Бяскрыл», «Вулей», «Зіма», «Зімовы пейзаж», «З дровамі», «Вёска», «Вёска зімой», «Куток двара», «Вуліца», «Вёска (Вясна)», «Калодзеж», «Сакавік», «Ранняя вясна»… Кожная з работ падаецца ўражлівай, прымушае ўзнаўляць у памяці сапраўды навасёлкаўскія пейзажы. І разам з тым перад намі зусім не этнаграфічныя замалёўкі. Углядаючыся ў зімовую вёску, ідучы за мастаком па Навасёлках, увесну ці летам, ловіш сябе на думцы, што творца выклаў усведамленне вясковага жыцця за ўсё мінулае стагоддзе. Аркадзь Астаповіч перадаў нам свой мастацкі запавет, сказаў шмат больш, чым бачым мы зрокава на яго работах. Душа і сэрца ўглядаюцца ў большую сутнасць. Канечне ж, дапамагаюць сюжэт, колеры, але фарбы, краскі, здаецца, празорлівы погляд Аркадзя Астаповіча вядуць далей, углыб.

Надзея Усава выразна акрэслівае «пухавіцкую» прастору мастака: «Трапіўшы ў Навасёлкі, Астаповіч апынуўся ў незнаёмым яму асяроддзі. Мастак не жыў на вёсцы ніколі, але, вядома, бываў там. Ён быў прыроджаны гараджанін, хаця і са сваім, крыху змрочным, успрыманнем горада. Здаецца, сялянская культура мусіла быць яму далёкай, гэтак жа як і ён, заняты сваёй «несур'ёзнай» справай — мастацтвам, — сялянам. Але так не сталася: сяляне паставіліся да мастака з павагаю, і ён з цікавасцю ўглядаўся ў твары сваіх вучняў-падлеткаў (альбом 1925 года), вывучаў сялянскі побыт («Асярод»), нялёгкую жаночую працу («Мыццё бялізны», 1927). Усё гэта было бясконца далёкім ад таго, што ён рабіў раней. Арнаменталізацыя прыроднага матыву паступова саступіла месца непасрэдным уражанням. Мадэрновы каркас яго творчасці пахіснуўся пад націскам натуры. Змяніўся, нават знешне, і сам мастак: прыезджы былы вайсковец-гараджанін загарэў, абветрыўся і пераўтвараўся ў вясковага настаўніка-інтэлігента, якога сяляне прывыклі бачыць з эцюднікам і фотаапаратам…»

Навасёлкі дапамаглі напоўніцу разгарнуцца таленту Аркадзя Астаповіча. Але ж, зразумела, гэта не адбылося б без багатай, насычанай адкрыццямі ўнутранай духоўнай работы. Усё спрыяла развіццю — і сям'я, і сама вёска, прырода ў ваколіцах Навасёлак, Мар'інай Горкі, маленькая і ўсё ж шырокая, раздольная, вірлівая рака Цітаўка. Спрыяла, відаць, і школьная атмасфера. Бываючы ў Навасёлках, і я пераконваюся: вёска развівае шырокае панарамнае бачанне, дазваляе іначай, чым, магчыма, у іншым паселішчы, убачыць неба і сонца, дазваляе іначай адчуць адценні і колеры прыроды, жыцця ўвогуле.

Знаёмства з альбомам «Аркадзь Астаповіч» — някідкім па сваім аб'ёме, невялікім па памеры, але нейкім цёплым і сімпатычным, — падштурхоўвае да наступных разваг. Прывязанасць мастака да выяўлення ў сваёй творчасці блізкіх яму пухавіцкіх Навасёлак патрабуе звароту, увагі да гэтай мясцовасці. Чаму б у Навасёлках не наладзіць мастацкі пленэр? І гэта не абавязкова павінен быць пленэр сталых мастакоў. Добра было б запрасіць у гэтыя мясціны на новае мастацкае, мастакоўскае прачытанне Навасёлак і ваколіц моладзь.

*Прэзентацыя*

# Ад летапісаў пачатак

Новае выданне «Помнікі літаратуры Беларусі X — XVIII стст.», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», было прадстаўлена шырокай публіцы ў кнігарні«Прэзентацыя». У якасці аўтара-ўкладальніка кнігі выступіў вядомы даследчык, загадчык сектара гісторыі беларускай літаратуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар філалагічных навук прафесар Іван Саверчанка. Імпрэза была прымеркавана да Сусветнага дня кнігі і аўтарскага права.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Кніга «Помнікі літаратуры Беларусі X — XVIII стст.» — унікальная. Тут упершыню ў такім шырокім аб'ёме і фармаце апублікаваныя шэдэўры старажытнага беларускага пісьменства ў адаптаваным выглядзе і ў перакладзе на рускую мову. Гэта найбольш значныя творы выдатных майстроў слова: публіцыстыка, паэзія, духоўная літаратура Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Льва Сапегі, Лаўрэнція Зізанія і многіх іншых. Тут прадстаўлены асноўныя жанры і віды старажытнай беларускай літаратуры эпохі Готыкі, Рэнесансу, Барока і Асветніцтва.




Пра многія творы, змешчаныя ў кнізе, дагэтуль ведалі толькі спецыялісты: рукапісы або захаваліся не цалкам, або знаходзяцца за межамі Беларусі. Так, падчас прэзентацыі выдання Іван Саверчанка падкрэсліў:

— Некаторыя тэксты перакладзены на рускую мову і апублікаваны ўпершыню. Гэта, напрыклад, пасольскія дзённікі, апісанні Берасцейскага сабора, напісаныя Іпаціем Пацеем. Яны цікавыя не толькі як помнікі літаратуры і пісьменства, але і як гістарычныя крыніцы.

Намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук Сяргей Гаранін адзначыў:

— Збор пад адной вокладкай цэлага шэрагу выдатных твораў старажытнай беларускай літаратуры — грунтоўная праца. Выданне такой кнігі на рускай мове — а было і папярэдняе на беларускай — значнае для нашай краіны ў трох аспектах. Па-першае, дзякуючы рускай мове старажытная беларуская літаратура будзе шырока прэзентавана на міжнародным узроўні. Па-другое, кніга будзе папулярызаваць нашу пісьменнасць і ўнутры краіны, бо шмат нашых суайчыннікаў размаўляе ўсё ж па-руску. Па-трэцяе, сёлета будзе праходзіць XV Міжнародны з'езд славістаў, каля 800 спецыялістаў па славянскіх мовах, культуры, літаратуры з розных краін свету з'едуцца ў Мінск. Чым мы іх сустрэнем? Такое выданне стане сапраўдным падарункам для замежных навукоўцаў.

Думаецца, кніга атрымае прызнанне не толькі сярод замежнікаў, але і сярод беларусаў. Выдатнае афармленне, паліграфічнае выкананне робіць яе добрым падарункам, а якасны падбор тэкстаў і пераклад ператвараюць у прыемнае чытво для аматараў літаратуры розных узростаў.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Шлях да папулярнасці

Бываюць тэмы, якія цягам адной гутаркі і не ахопіш. Калі памятаеце, мінулым разам мы закранулі пытанні самапублікацый і сайтаў-платформ, на базе якіх рэалізуюцца новыя спосабы камунікацыі аўтара і чытача. Але гэта толькі кропля ў моры новых шляхоў. Сучаснае жыццё з яго амаль светлавымі хуткасцямі развіцця літаральна штодзень дае нам усё новыя і новыя магчымасці. Добра гэта ці кепска — пакажа час. Таксама як і праз гады будзе дакладна вядома, хто з сучасных майстроў слова застанецца ў ліку чытаемых аўтараў, а чые імёны будуць забытыя.

Несумненна адно: тэхнічная эвалюцыя з'яўляецца інструментам дэмакратызацыі і папулярызацыі пісьменніцтва і чытання. У дадзенага фактара знойдуцца як прыхільнікі, так і праціўнікі. Але ісціна, як заўсёды, дзесьці паміж.

На мой погляд, цудоўна, што магія літар імкнецца пашырыць свае межы і страціць налёт рафінаванасці. Часы іншыя. І гуманітарнай катастрофы можна пазбегнуць, толькі зрабіўшы адкрытай літаратурную сферу. Таму не выключана магчымасць, што хутка многія з нас трапяць яшчэ ў адну сацыяльную сетку. Гэтым разам літаратурную. Саюз пісьменнікаў Расіі і сетка кнігарняў «Буквоед» цяпер распрацоўваюць сайт для тых, хто жадае далучыцца да кола прафесійных пісьменнікаў. Ды і назва выбрана гучная — «Козьма».

У чым жа заключаецца адрозненне «Козьмы» ад папулярнага «LiveJournal», на прасторах якога запалілася нямала новых зорак сучаснай культуры? У духу дуэлянцтва! Атрымаць рэкамендацыі ад масцітых літаратараў і пацяху ўвайсці ў пісьменніцкі асяродак можна, павышаючы свой рэйтынг сродкамі ўжо традыцыйных «лайкаў» (ці ўпадабанняў). А поле для творчасці будзе прадастаўлена бязмежнае: паэзія, проза, драма, сцэнарыі для кінапраектаў…

Не сакрэт, што сувязі вырашаюць калі не ўсё, то многае. Не варта адразу ацэньваць гэтае пачынанне ў негатыўным святле. Тут, бадай, трэба казаць менавіта пра пазнавальнасць аўтара, пра тое, якой колькасці прафесіяналаў у сваёй галіне ён вядомы. Таму «бацькі» літаратурнай сацсеткі ставяць сабе на мэце даць маладым талентам шанс упісацца ў незнаёмы свет з ужо ўсталяванымі правіламі і традыцыямі.

Шлях да пісьменніцкай славы непрадказальны. Узяць хаця б гісторыю Джоан Роўлінг, якая калісьці працавала сакратаром і настаўнікам. Свой творчы шлях яна працягвае, ужо з'яўляючыся аўтарам кніг, перакладзеных на 65 моў і прададзеных у колькасці больш як паўмільёна копій. А пераломным момантам у яе кар'еры стала згода *Bloomsbury Publishing PLC* выкупіць рукапіс пасля шэрагу адмоў іншых выдавецтваў. Ды і на нашых прасторах ёсць нямала такіх гісторый. Вяртаючыся да тэмы анлайн-папулярнасці, хочацца прывесці прыклад таго, як усё залежыць ад жаданняў свавольнага спадара Выпадку. Жыў-быў спецыяліст па псіхафізіялогіі. Потым ён стаў сябрам савета дырэктараў некалькіх прадпрыемстваў. Займаўся маркетынгам. І раптам па волі абставін перакваліфікаваўся ў сантэхніка, развёўся з жонкай і пачаў весці блог у ЖЖ… А сёння многія з нас смяюцца да слёз, чытаючы расповеды Славы Сэ. Усё таму, што прадстаўнікі выдавецтва «АСТ» знайшлі ў сеціве яго посты і падумалі: «А чаму не?»

Сапраўды, чаму не? Калі ў вас ёсць чым падзяліцца. Думкі, сюжэты, героі… Не трэба баяцца зрабіць першы крок на шляху да мары. Галоўнае — не шукаць сабе апраўданняў, а імкнуцца выкарыстаць магчымасці. Тым больш што сёння, як бачым, іх вялікае мноства.

## На паліцы

# А наклад... без межаў!

Панарама музычнай культуры Беларусі да XX стагоддзя разгортваецца на старонках новай навуковай манаграфіі доктара мастацтвазнаўства, прафесара Вольгі Дадзіёмавай. Выданне ажыццявіла Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Даўно ўжо не сакрэт, што ў савецкі час вывучэнне беларускай музычнай культуры г. зв. дакастрычніцкага перыяду наўмысна, з-за пэўных ідэалагічных прычын, абмяжоўвалася сферай пераважна песеннай, а таксама інструментальнай народнай творчасці. Такім чынам у грамадстве ўкаранялася неабгрунтаванае меркаванне пра тое, што да 1920-х гадоў на нашых землях, апроч вуснага вясковага фальклору (і сапраўды неаспрэчнага залатога запасу нацыі), музычнага мастацтва не было. Толькі пры канцы мінулага стагоддзя рупнасцю энтузіястаў актывізаваліся няпростыя працэсы беларускага музычнага адраджэння, пошукаў і збірання адрынутай і адчужанай спадчыны, вяртання яе ў навуковы ўжытак, у канцэртную практыку, у культурную свядомасць суайчыннікаў. Выдатная дзейнасць В. Дадзіёмавай у гэтым напрамку добра знаёмая чытачам «ЛіМа» і не мае патрэбы ў каментарыях. А «Гісторыя музычнай культуры Беларусі да XX стагоддзя» ілюструе развіццё і новы ўзровень абагульнення ідэй, даследчага досведу і навуковых высноў, змешчаных у амаль двухстах яе ранейшых публікацыях: артыкулах, навучальных дапаможніках, манаграфічных працах і хрэстаматыях.

На аснове даследаваных матэрыялаў аўтар кнігі стварае рэканструкцыю адмысловага гістарычнага ландшафту, які дзесяцігоддзямі заставаўся па-за ўвагай айчынных музыколагаў. Ва ўступным раздзеле зазначаецца колішняя парадаксальная сітуацыя, пры якой архітэктурныя помнікі нашага краю залічваліся ў скарбніцу беларускай культуры, а музыка, што нараджалася ў агульнай з імі праторава-часавай рэчаіснасці (гучала ў храмах, палацах, замках, сядзібах), зусім не ўпісвалася ў гісторыю айчыннага мастацтва. Хто ж мог тады ўявіць, што на працягу жыцця аднаго пакалення сітуацыя рэзка зменіцца і дасць заўважны плён беспрэцэдэнтная праца па рэканструкцыі зместу «забытых» найважнейшых эпох у гісторыі нашага музычнага мастацтва: Рэнесансу, барока, класіцызму, рамантызму! Зменай гэтых музычна-стылявых эпох абумоўлена перыядызацыя «Гісторыі...», скіраваная на ўласна музычную праблематыку і на доказы спрадвечнай далучанасці адпаведнай галіны культуры і мастацтва да агульнаеўрапейскага працэсу.




На вычарпальнасць звестак новае выданне прэтэндаваць не можа, падкрэслівае В. Дадзіёмава і раіць звяртацца да тых работ айчынных і замежных калег, на якія ёсць спасылкі ў кожным раздзеле.

Развіццё музыкі ў канфесіянальнай сферы, жанравая палітра свецкага мастацтва, прыватнаўласніцкія музычныя тэатры, паратэатральныя з'явы, плынь музычна-педагагічнай думкі, творчыя партрэты прафесійных кампазітараў, дзейнасць выбітных музыкантаў-аматараў... Салідны навуковы матэрыял зацікавіць знаўцаў даўняй айчыннай культуры, студэнтаў-музыколагаў. Зрэшты, новую кнігу можна знайсці ў інтэрнэце, а гэта значыць, што і наклад яе, і кола чытачоў — неабмежаваныя!

# Памяць Агаты Турчынскай

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

З іншых «ашхабадскіх» папер, газетных і часопісных выразак, саміх пажоўклых газет, старых часопісаў, кніг розных гадоў выданняў — лютаўскі нумар за 1967 год часопіса «Прапор». Вось якім было яго «падарожжа»: Кіеў — Ашхабад — Мінск. Перагортваю вокладку. На тытуле: «От Агаты Турчинской редакции газеты «Эдебият ве сунгат». (Подпіс.) 28.VI.67 г.» У 1985 — 1988 гадах я жыў у Ашхабадзе. Сябраваў з многімі туркменскімі пісьменнікамі. Ці не найбольш — з усімі, хто працаваў у рэдакцыі штотыднёвіка «Эдэбіят ве сунгат» («Літаратура і мастацтва»). З галоўным рэдактарам Какалы Бердыевым, якога пазней змяніў на пасадзе Тыркіш Джумагельдыеў. З Алаярам Чурыевым, Агультэч Аразбердыевай, Газель Шукуліевай, Яўшанам Аннакурбанавым, Какабаем Курбанмурадавым, Шадурды Чарыкуліевым. Памятаю і фотакарэспандэнта Амара Сахатклычава. У газеце час ад часу друкаваліся мае рэцэнзіі, а таксама артыкулы на тэму повязей туркменскай літаратуры з літаратурамі іншых народаў.

Мае сябры, ведаючы кола зацікаўленняў маладога журналіста, і перадалі часопіс, які гадамі ляжаў у адным з пакояў рэдакцыі, што месцілася ў Доме друку па вуліцы Атабаева, 20.

А я ўжо ведаў, што ўкраінская пісьменніца Агата Турчынская ў Вялікую Айчынную вайну жыла ў эвакуацыі ў Ашхабадзе. Пра гэты перыяд у сваім жыццёвым і творчым лёсе напісала раман «Мой сябра — Ашхабад». На рускай мове гэты твор выйшаў асобнай кнігай у Маскве ў 1960 годзе. А па-туркменску — у 1991-м, у перакладзе Дангатара Бердыева, добра знаёмага мне перакладчыка. Памяткай засталося і тое, як я знаёміў яго з беларускім паэтам Алесем Емяльянавым. І было гэта дома ў туркменскага дзіцячага паэта Курбана Чалиева. Алесь прывёз тады, у 1987-м, у Ашхабад рукапіс анталогіі беларускай дзіцячай літаратуры «Яснае сонейка». Кніга — па-туркменску — пабачыць свет у 1989 годзе. А тады, у сярэдзіне 1980-х, я і не ведаў, што Дангатар Бердыеў працуе над перакладам рамана ўкраінскай пісьменніцы.

Затое ў кіеўскім часопісе «Прапор» чытаў нарыс «Дружа мой, Ашхабад». Так, чытаў па-ўкраінску нарыс Агаты Фёдараўны Турчынскай (1903 — 1972). Пісьменніца расказвае, як у 1964 годзе наведалася ў горад, што стаў для яе добрым сяброўскім прытулкам у гады Вялікай Айчыннай… «Позняй восенню 1964 года я ехала на сустрэчу з тым дарагім маймў сэрцу месцам, якое ўлетку 1941-га сустрэла мяне ласкава і прыветліва, з месцам, якому, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, хацелася сказаць: «Дружа мой, Ашхабад…»

Масква, Арэнбург, Сызрань на Волзе, Кзыл-Арда, Уральск, Ташкент, Самарканд, Чарджоу — такой была дарога, якой я вярталася ўвесну 1944 года на бацькаўшчыну і цяпер ехала да Ашхабада пасля дваццацігадовага развітання з ім...»

У сваім нарысе Агата Фёдараўна расказвае пра тое, як яе сустрэлі ў 1941-м годзе… Пра тое, што падтрымалі яе газетчыкі з партыйнай «Савет Туркменістаны». Першай публікацыяй стаўся верш. Яго на туркменскую мову пераклаў Бекі Сейтакаў. А першым нарысам, надрукаваным у газеце, — расповед пра туркменскую дзяўчыну з шоўкапрадзільнай фабрыкі. Знаёміцца са сваёй гераіняй Агата Турчынская пайшла разам з Чары Маталавым. Ён быў не толькі гідам, але і перакладчыкам. «Мы доўга з тавырышам Маталавым хадзілі тады па фабрыцы і знаёміліся з яе людзьмі. І, пэўна ж, яму лягчэй было напісаць пра ўсё ўбачанае і пачутае. Але добрыя людзі хацелі, каб гэта зрабіла я — эвакуіраваная ўкраінская пісьменніца. Яны падстаўлялі на туркменскай зямлі масток дружбы пад мае ногі. Я гэта адчувала, напісала нарыс пра слаўных туркменскіх шоўкамотальшчыц, і яго надрукавалі ў газеце "Савет Туркменістаны"».

У 1980-я і мне пашчасціла пазнаёміцца з Чары Маталавым. Нашы рэдакцыі (ён працаваў у часопісе «Народное образование Туркменистана», а я — у салдацкай «шматтыражцы») знаходзіліся побач, за хвіліну хады адна ад другой. Чары-ага і да мяне, маладога журналіста, беларуса, які адкрываў для сябе новы край, быў надзвычай прыязны і спагадлівы.

…Ашхабад 1940-х… Ваенны Ашхабад… У туркменскай сталіцы панавала асаблівая пісьменніцкая атмасфера. Георгі Шэнгелі перакладаў класікаў туркменскай паэзіі. Юрый Алеша (яго маці жыла ў акупіраваным фашыстамі Гродне) пісаў сцэнарыі для эвакуіраванай кіеўскай студыі мастацкіх фільмаў. Славіст П. Багатыроў перакладаў «Прыгоды бравага салдата Швейка» Ярaслава Гашэка. Украінскі драматург, празаік Юрый Дольд-Міхайлік працаваў ва ўпраўленні мастацтваў Саўнаркама Туркменістана. У оперным тэатры Ашхабада спявала родная сястра беларускага празаіка Барыса Мікуліча. Яе муж — кінарэжысёр Георгій Сабураў. І сярод гэтай творчай грамады — Агата Фёдараўна Турчынская…

Праводжу рукой па вокладцы старога, з 1967 года, нумара «Прапора». Быццам судакранаюся і з мілым сваім сябрам Ашхабадам. Праходжу па тых самых вуліцах — Энгельса, Свабоды, Гогалеўскай, Пушкінскай… Уяўляю, якія шчадроты дабрыні, святла атрымала тут у ваенныя гады галоўная гераіня рамана «Мой сябра — Ашхабад» Марта Барэйка і сама ўкраінская пісьменніца Агата Турчынская.

# Сериалы хороши, если это… книги

**Каждый раз, когда я расспрашивала белорусских писателей — авторов, как принято говорить, маститых, состоявшихся и признанных, — о том, что они читали в детстве (ведь интересно узнать, на каких книгах рос человек, на чьих историях вырос ты сам), ответ был всегда один: всё, что попадётся под руку. В послевоенное время, когда главной заботой было накормить и одеть детей, да и самих себя, о книгах думали в последнюю очередь. Во всяком случае, если вставал выбор между хлебом и сказками Андерсена, выбирали первое. И знаете, что читали дети сороковых-пятидесятых? Медицинские справочники. Обрывки старых газет.**

**Василь Быков вспоминал, что в 12 лет (а это 30-е годы XX в.) прочёл «Войну и мир». И это не единичный случай. Подумайте только: ребятишки, которым чуть более десяти лет, читают Толстого, Достоевского, Чехова — и зачитываются.**

**И из этих ребятишек выросло поколение писателей, создавших новую белорусскую литературу.**

**Но это не значит, что нужно силой усаживать десятилетних сорванцов за русскую классику. Что вы! Тут не каждый родитель разберётся, по сегодняшним-то меркам. Мы толкуем о другом: теперь, когда выбор детской литературы богатый, а книга не является дефицитом, на вас, дорогие родители, лежит большая ответственность за подбор литературы.**

**Впрочем, издатели и так стараются облегчить эту задачу, выпускают целые серии детской литературы — как по авторам, так и тематически. Например, мы писали о серии ООО «Харвест» «Союзмультфильм» представляет», где в форме комиксов либо в сопровождении рисунков-кадров любимые мультфильмы обретают новую, книжную, жизнь. И сегодня расскажем вам о другом «книжном сериале» — «Читаем сами».**

## КАК ЛЬВЁНОК И ЧЕРЕПАХА ЛЕТАЛИ НА НОСОРОГЕ

Вы помните — конечно же, вы помните — историю о Львёнке Ррр-Мяу и Большой Черепахе? Да, именно они сочинили и спели песенку «Я на солнышке лежу…» Пожалуй, это самый знаменитый и любимый дуэт моего детства. И не только моего.

Однако история звериного дуэта не заканчивается словами «…крокодил-дил-дил плывёт».




После мультфильма, снятого в 1974 году, появилась книга, написал которую Сергей Козлов, автор сценария мультфильма «Как Львёнок и Черепаха пели песню». После — это через 20 лет. Сначала, в 1993 году, в книжном свете появились только стихи, написанные для мультфильма. Потом, в 1994-м, вышла книга «Львёнок и Черепаха: Сказка в десяти главах, первую из которых знают все, а остальные — никто», в 1996-м — «Пираты и Львёнок: Сказка с пиратами, песнями, ураганом, пальбой из пушек и пистолетов в 9 главах», а ещё через два года — «Крокодил-дил-дил плывёт, или Как Львёнок и Черепаха отправились в путешествие». Судя по названию нового издания — **«Как Львёнок и Черепаха путешествовали»**, — в основе его лежит последняя книга.

Детский писатель Юрий Кушак сказал удивительные слова о сказочнике: «Козлов был ни на кого никогда не похожий, единичный, штучный писатель, интеллигентный, глубокий, по-особому талантливый человек. Такой сказочной прозы до него не писал никто, поэтому её с удовольствием переводят во Франции, Германии, Америке, Голландии». Именно слово «глубокий» хочется подчеркнуть жирной линией, а лучше — двумя. Глубокий — и немножко печальный, даже трагичный. Но детям вряд ли откроется этот трагизм. Его может почувствовать лишь большой ребёнок, наступивший не на одни грабли к тому времени. О каких граблях мы говорим? О зазнайстве и пустоте не самых лучших из людей. О незаслуженной славе многочисленных Обезьян в цилиндрах и с тросточками, которые прыгают по веткам с криком: «Я — всемирный персонаж!» О несчастных привязанных к земле Носорогах, которым так хочется летать. О чудищах морских Китах, которые неожиданно оказываются добрыми и сердечными и угощают нас вкусным обедом, и о старых знакомых Крокодилах, которые вдруг разевают пасть и вот-вот нас сожрут.

Львёнок, Черепаха и Носорог путешествуют, рискуют жизнью, знакомятся с добрыми и не очень животными, и только потом читатель узнаёт, как же они познакомились. То, с чего всё начиналось, венчает книгу.

Добавим только, что Сергей Козлов также автор сценария легендарного анимационного фильма «Ёжик в тумане». Сказочник написал и другие истории о Ёжике и Медвежонке, но их экранизацией занимался уже не Юрий Норштейн.




## «НЕ ВАЖНО, КТО ТЫ! ВАЖНО, КАКОЙ ТЫ!»

Эту и многие другие мудрые мысли можно найти в книге сказок Екатерины Каргановой **«Песенка Мышонка»**. Все её герои — животные: Мышонок, Поросёнок, Ослик, Цыплёнок — и притом, образно выражаясь, они ровесники своего потенциального читателя. Потому и проблемы их не покажутся ребёнку чем-то нереальным. Многие узнают в героях себя.

Вот, например, Поросёнок Чуня («Чуня»). Однажды утром ему стало тоскливо, на что мама сказала: «Тебе грустно, малыш! Значит, ты уже вырос. Здесь слишком тесно для тебя. Рано или поздно всем детям становится тесно… И в этом нет ничего удивительного!» Согласитесь, это изречение не только морально подготовит ребёнка к его же будущему, но и в какой-то степени может послужить утешением родителям. Ведь действительно — «рано или поздно».




Кстати, сказка про Чуню — наилучшая иллюстрация к схеме, вырисованной Владимиром Проппом. Так, исследователь пришёл к выводу, что все волшебные сказки построены по одной схеме со стандартным набором сюжетных ходов, допускающих небольшие вариации. Всего существует 31 действие, 31 ключ, и в каждой из сказок можно найти большинство из них, причём всегда в одном и том же порядке. Так и здесь: сначала детство героя, потом взросление и уход из дома, потом подвиги и встречи с помощниками, потом испытание (герою не раз приходилось слышать обидные высказывания в адрес поросят — вот вам и жертва стереотипов) и вознаграждение: Чуня вернулся домой и получил своё сокровище — мудрость.

Чуня, который, наслушавшись гадостей в свой адрес, хотел было отречься от гордого звания свиньи, остался самим собой. При всей простоте сказка, друзья мои, гениальная.

## ПРОЗА ЖИЗНИ В СТИХАХ

Есть сказки в прозе, и их — большинство. Есть стихотворные сказки, и, как правило, это авторские произведения, например, «Муха-цокотуха» К. Чуковского. Детская писательница Елена Агинская синтезировала две формы, и в итоге получились тексты, которые выглядят как проза, но в то же время они сплошь усыпаны рифмами. Такие чудные сказки составили книгу **«Мышки-малышки»**. В мире животных хватает всяких персонажей, и среди них живёт маленький и серенький мышиный народ. Мышки никого не обижают, живут честно, своим трудом, приходят на помощь друзьям, но и врагам спуску не дают. Елена Агинская рассказывает о том, как мышата ходили в детский сад; как играли в футбол с мартышками, а противная крыса Глафира судила нечестно; и как крысу Глафиру настигло возмездие за все её гадости («коварная карма наносит удар, и в доме крысином случился пожар»). Но всё закончилось хорошо, Глафира прощена, лесной народ пьёт лимонад с конфетами.




Признаюсь: я перечитала книжку про мышат ещё раз. Агинская владеет пером виртуозно.

Ещё одна её книга — **«Лесные истории»** — тоже не совсем обычная. Тексты в ней нельзя назвать сказками. Это, скорее, басни или даже притчи. Каждая из историй рассказывает о каком-нибудь случае из лесной жизни, притом рассказывает лаконично, без отступлений, рассуждений и тем более — открытой морали. Присутствие автора совершенно неощутимо. Именно потому «Лесные истории» приобретают новое звучание, отличное от всех других сказок. Я прямо-таки вижу, как Далай-лама, выслушав вопрос страждущего, вместо прямого ответа рассказывает ему одну из подобных «историй». А вместо выведенной морали — загадочно улыбается.




## ПУТЕШЕСТВУЕМ ПО ЗЕЛЁНОЙ СТРАНЕ

Не зря на обложке книги Екатерины Серовой **«Муравьиный поезд»** нарисован указатель: налево — Лес, направо — Дом и Луг. Сама книга — и указатель, и энциклопедический справочник, и сборник стихов, и художественный альбом (как, впрочем, и все остальные книги, о которых мы говорим сегодня).




Екатерина Серова очень много писала о природе. Её первой книгой — «Наши цветы» — восхищался Виталий Бианки. А поэт Валентин Берестов сказал Екатерине Васильевне: «Ваши «Цветы» открыли дорогу стихам о природе».

Книга «Муравьиный поезд» объединила четыре цикла стихов: остроумные и меткие портреты лесных жителей, гид по грибам, лирические, удивительно тонкие и нежные строки о цветах и — немного — деревьях, а также раздел «Подводная страна». Последний выделяется не только тематически (много ли вы знаете стихов о море и его обитателях?), но и изобразительными средствами: Екатерина Серова постоянно каламбурит. Например, рыба-игла зашивает штанишки окуням после игры в футбол морским ежом.

## И НЕМНОГО ПРО МЕДВЕДЕЙ




Напоследок — три слова о книге **«Сказки про медведей»**. Слово первое: книга собрала под одной обложкой всеми любимые истории — «Маша и медведь», «Два жадных медвежонка» и «Три медведя» А. Толстого. Думаю, после выхода популярного мультсериала про Машу и бедного Медведя это издание расходится «на ура». Слово второе: количество медведей с каждой сказкой увеличивается; уж не знаю, совпадение это или труд грамотного составителя. Слово третье: на три четверти книга состоит из добрых и ярких иллюстраций Ольги Крупенковой (она же работала над «Муравьиным поездом» Е. Серовой).

Вообще над серией «Читаем сами», как видно, работают действительно талантливые люди, среди которых — художники Пустоваловы («Мышки-малышки», «Песенка мышонка», «Лесные истории») и Самсоненко («Как Львёнок и Черепаха путешествовали»).

Сказки написаны, книги изданы. Вам, дорогие мамы и папы, осталась самая малость: открыть ребёнку их удивительный мир.

**Анастасия ГРИЩУК**

# Майстар чалавеказнаўства

**Алена ДЗЕНІСЕНКА, навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі**

9 мая споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вядомага вучонага, педагога, акадэміка НАН Беларусі, замежнага члена Расійскай акадэміі адукацыі, доктара філалагічных навук, прафесара, беларускага пісьменніка Васіля Івашына.

В. Івашын быў цікавым, яркім чалавекам, адным са старэйшын літаратуразнаўства, з багатым творчым досведам на адукацыйна-педагагічнай ніве рэспублікі. Кіраўнік буйной установы, ён на поўную сілу займаўся прафесійна-вытворчымі справамі. Яго пяру належыць больш як 300 навуковых прац, прысвечаных пытанням гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, праблемам развіцця рэалізму, беларуска-рускіх, беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей, методыкі выкладання літаратуры ў школе.

У беларускім літаратуразнаўстве Васіль Івашын працаваў без малога шэсць дзесяцігоддзяў. Сфера яго навуковых інтарэсаў — станаўленне беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, нацыянальная мастацкая класіка, і, найперш, спадчына такіх вялікіх мастакоў слова, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Ён даследаваў пытанні тэорыі і гісторыі літаратуры, пісьменніцкага светапогляду, творчай індывідуальнасці аўтара, літаратурных уплываў і сувязей, пытанні паэтыкі рэалізму, эстэтыкі слова. Яго погляды знайшлі сваё ўвасабленне ў працах «Янка Купала — вялікі народны паэт» (1952), «Рэвалюцыя 1905 — 1907 гг. і развіццё беларускай літаратуры» (1955), манаграфічных даследаваннях «Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905 — 1907 гг.» (1953), «М. Горкі і беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя» (1956), «Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму» (1963), «Да вышынь рэалізму: асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускай дакастрычніцкай і савецкай літаратуры» (1983), «Выверанае жыццём» (1988).

Асобны кірунак творчай дзейнасці В. Івашына — педагагічныя даследаванні. Шмат часу ён аддаваў падрыхтоўцы кадраў вышэйшай кваліфікацыі. Ён заўсёды падтрымліваў таленавітую моладзь, дапамагаў парадамі і добразычлівым словам кожнаму, хто меў у гэтым патрэбу. Васіль Уладзіміравіч кіраваў працай аспірантаў, падрыхтаваў 8 кандыдатаў навук, узначальваў камісіі па здачы кандыдацкага мінімуму ў Нацыянальным інстытуце адукацыі, доўгі час працаваў у складзе савета па абароне дысертацый пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы.

У фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі захоўваюцца амаль усе выданні В. Івашына. Шмат іх у кніжных калекцыях аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў (у свой час аддзелу былі перададзены ўласныя кнігазборы П. Глебкі, П. Беркава, А. Вялюгіна, І. Канапацкага, М. Біча, Г. Гарэцкага і інш.). Большая частка кніг з дарчымі надпісамі аўтара.

У кнігазборы П. Глебкі захоўваюцца дзве невялікія кніжкі з дарчымі надпісамі В. Івашына. «Пятру Фёдаравічу — паэту і вучонаму — з глыбокай павагай ад аўтара. 17/X-53 г. В. Івашын» — на кнізе «Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905 — 1907 гг.» (Мінск, 1953); «Пятру Фёдаравічу ў знак шчырай павагі. 18/ II-52 г. В. Івашын» — на кнізе «Янка Купала — вялікі народны паэт» (1952).

Кожная з кніг майстра заслугоўвае асобнай гаворкі. Большасць з іх вытрымала выпрабаванне часам. Нават у святле сённяшніх строгіх ацэнак мастацкіх твораў, літаратуразнаўчых прац і, асабліва, літаратурнай крытыкі савецкага перыяду асноўныя манаграфіі і артыкулы В. Івашына не падаюцца састарэлымі. Напрыклад, выдадзеная ў 1983 г. кніга «Да вышынь рэалізму. Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускай дакастрычніцкай і савецкай літаратуры» ўспрымаецца актуальнай і сёння. Аргументавана і тонка раскрываецца тут заўсёды важная для мастацкай практыкі і тэорыі думка пра тое, што літаратура пры ўсіх сваіх шырокіх і бязмежных правах і паўнамоцтвах на эстэтычны пошук і наватарскі эксперымент павінна заставацца чалавеказнаўствам і жыццязнаўствам.

З беларускім літаратуразнаўцам, акадэмікам НАН Беларусі, доктарам філалагічных навук В. Барысенкам майстра звязвалі сумесныя працы і, несумненна, шчырыя сяброўскія адносіны. Пра гэта сведчыць надпіс на кнізе Васіля Івашына «Да вышынь рэалізму»: «Дарагому Васілю Васільевічу Барысенку на ўспамін аб незабыўных гадах сумеснай працы, шчыра, сардэчна, з сяброўскімі пачуццямі і найлепшымі пажаданнямі. 20.9.1983 г.» В. Івашын браў удзел у падрыхтоўцы двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1964 — 1966), якая з'явілася ў выніку яго сумеснага рэдагавання з В. Барысенкам.

У 2010 г. Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі атрымала ў дар ад нашчадкаў кнігазбор В. Івашына (222 кнігі) і яго асабісты архіў. Асноўную частку бібліятэкі вучонага складаюць кнігі па беларускім літаратуразнаўстве і беларуская мастацкая літаратура. Самыя раннія з іх — выданні 40-х гадоў мінулага стагоддзя. Іх няшмат, каля дзесяці. Тры з іх з дарчымі надпісамі. На форзацы сціплай вокладкі зборніка вершаў Міколы Засіма «Ад шчырага сэрца» (1947) — дарчы надпіс аўтара: «Паважанаму выкладчыку беларускай літаратуры тав. Івашыну ад Міколы Засіма. г. Мінск-Партшкола. 1/III 48 г.» На вокладцы выбраных твораў Паўлюка Труса «Вершы і паэмы» (1949) надпіс: «Васілію Уладзіміравічу ад аўтара прадмовы на ўспамін. 28/XII.49 г. І. Жыдовіч».

У кнігазборы майстра — два зборнікі яго вершаў: «Прызванне», «Слова».

Сваю першую кнігу вершаў «Слова» Васіль Івашын стварыў у пачатку 1990-х гадоў, калі яму было ўжо 82 гады. На гэты конт беларускі літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, акадэмік НАН Беларусі У. В. Гніламёдаў у прадмове да зборніка вершаў «Прызванне» піша, што В. Івашына можна ўносіць у Кнігу рэкордаў Гінеса як самага позняга дэбютанта ў гісторыі беларускай паэзіі.

Большая частка кніг з бібліятэкі Васіля Івашына — з дарчымі надпісамі беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў: Э. Агняцвет, Максіма Танка, А. Астрэйкі, А. Вялюгіна, Я. Брыля, М. Мушынскага, В. Рагойшы, Ф. Куляшова, А. Адамовіча, Г. Кісялёва, А. Мальдзіса, А. Лойкі, М. Лынькова, В. Вольскага, Н. Гілевіча, А. Зарыцкага і інш. Цікавы дарчы надпіс зрабіла беларуская паэтэса, перакладчыца на лірычным зборніку вершаў «І смутак, і святло» (1996): «Жадаю святла ў паэзіі і жыцці. «Як хутка восень абмінае лета…» Не спяшайцеся, Васіль Уладзіміравіч! Хай лета доўга саграваe Вашу душу! Эдзі Агняцвет. Верасень 1996. Ісłач».

Напрыканцы — яшчэ адзін прыклад. Дзве кнігі трапілі ў бібліятэку Васіля Івашына ў якасці падарунка ад жонкі Янкі Купалы Уладзіславы Луцэвіч. Гэта драматычная паэма Васіля Віткі «Шчасце паэта» (1951) і «Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы» (1952). На кнігах — дарчыя надпісы Уладзіславы Францаўны: «Паважанаму тав. Івашыну В. В. са шчырай падзякай за Вашу працу над спадчынай Янкі. В. Луцэвіч. 31/XII.52»; «Паважанаму т. Івашыну на шчыры ўспамін аб Я. Купалу. В. Луцэвіч. 25/I.52 г.»

Асабісты архіў В. Івашына яшчэ не апрацаваны. Але ж пройдзе час, і мы, магчыма, зможам даведацца невядомыя факты з біяграфіі слыннага вучонага. Новыя звесткі больш поўна раскрыюць партрэт гэтага неардынарнага і вельмі таленавітага чалавека.

# Гонар Джэйн Остэн

«Гонар і прадузятасць» («Pride and Prejudice») — самы вядомы і папулярны раман англійскай пісьменніцы Джэйн Остэн, пра што сведчыць, напрыклад, колькасць экранізацый: з 1938 па 2005 год іх з'явілася ажно дзесяць. А сёлета бессмяротнай гісторыі спаўняецца 200 гадоў.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Джэйн Остэн пачынала працу над раманам ва ўзросце 21 года (у 1796-м). Аднак выдаўцы не прынялі рукапіс, што не дзіўна. На той час у Англіі пісьменніц было не меней, чым чытачоў. Юныя лэдзі, якія добра валодалі словам, а таксама мелі процьму вольнага часу, бавіліся стварэннем раманаў. Іх тэматычна можна падзяліць на дзве часткі: сентыментальныя гісторыі, поўныя самых тонкіх, звышвыкшталцоных пачуццяў ды трагедый, большых за пампейскую, і гатычныя творы, якія мусілі выклікаць дрыжыкі на скуры, але замест гэтага часцей за ўсё прымушалі разумнага чалавека пакутаваць ад бясконцых пазяханняў.

Нельга сказаць, што першы раман Джэйн (першы, калі не лічыць ювенілію — творы, напісаныя ў юнацтве) быў такі ўжо безадзейны. Хутчэй за ўсё, выдаўцы проста не сталі разбірацца з «яшчэ адным» плодам жаночай фантазіі. Праз трынаццаць гадоў будзе апублікаваны раман «Пачуццё і чуллівасць» («Sense and Sensibility»), які прынясе Джэйн Остэн не толькі прызнанне, але і адчувальны прыбытак — 140 фунтаў. Да гэтага дзяўчына разам з маці, сястрой і блізкай сяброўкай жылі на 450 фунтаў у год. Пасля такога поспеху выдаўцы звярнулі ўвагу і на «Гонар і прадузятасць».



Пісьменніца грунтоўна перапрацавала раман: прыўнесла больш цудоўнага англійскага гумару і больш саспелых, выверaных жыццём думак. Раман быў апублікаваны ў 1813 годзе і гэтым разам прынёс аўтарцы 110 фунтаў.

Чаму раман «Гонар і прадузятасць» набыў такую папулярнасць? Чым Джэйн Остэн вылучалася сярод процьмы іншых жанчын-пісьменніц? Перш за ўсё, здаровым розумам. Тут варта зазначыць, што пачынала яна з пародый на жаночую прозу. Так, прыкладна гадоў у 18 Джэйн напісала гісторыю «Прыўкрасная Касандры» («The Beautifull Cassandra»), якая закахалася ў свой каптурок і збегла з ім з дому. Твор прысвячаўся роднай сястры — Касандры. Але, нягледзячы на іронію, да самога жанру рамана Джэйн Остэн ставілася з павагай. Яна часам нават пакепліва з людзей, якія апрыёры яго не прызнавалі (пераканаўчыя словы ў абарону «лёгкага жанру» Остэн выказала ў рамане «Нортэнгерскае абацтва» праз вусны Генры Цілна, аднаго з галоўных герояў).

А там, дзе розум, будзе і гумар. Іронія, сарказм, сатыра, пакепліванне, высмейванне, смех скрозь слёзы і сумныя жарты — «Гонар і прадузятасць» поўніцца імі да краёў. Пэўна, калі б Джэйн Остэн не прыпраўляла карціны жыцця гумарам, раман ператварыўся б у суцэльную жалобу. Так, мы бачым місіс Бэнэт, жанчыну даволі абмежаваную, якая ўяўляе сабой адвечны вобраз назойлівай свацці і пляткаркі. Але смех змяншае адмоўнае ўражанне, перастварае яе ў дзіўнаватую, але мілую жанчыну. Містар Бэнэт — галава вялікага і, на жаль, цалкам жаночага, за выключэннем яго самога, сямейства. На жаль, бо паводле правілаў маяўту ўся маёмасць пераходзіць старэйшаму сыну, а за адсутнасцю такога — найбліжэйшаму родзічу мужчынскага полу. То бок, па смерці містара Бэнэта яго дзяўчаткі заставаліся амаль ні з чым.

Джэйн Остэн у кожным сваім рамане ўздымала грашовае пытанне, праз якое вельмі часта разбуралася шчасце маладых людзей — так сталася і з самой Джэйн. У 20 гадоў яна сустрэла ірландца Томаса Лефроя (верагодна, што многімі яго рысамі быў надзелены містар Дарсі), аднак на шлюбе былі пастаўлены крыж: яна — беспасажніца, ён — з беднай сям'і. Пазней, атрымаўшы адукацыю юрыста і зрабіўшы ўдалую партыю, Лефрой стане Лордам Вярхоўным Суддзёй Ірландыі. А Джэйн так і застанецца векавухай. Не пашчасціла і яе роднай сястры: жаніх Касандры, каб зарабіць на вяселле і хоць неяк забяспечыць будучую сям'ю, выправіўся капеланам на Карыбскія астравы, дзе хутка памёр праз жоўтую ліхаманку. Ці не таму развязка «Гонару і прадузятасці» шчаслівая? Не атрымаўшы шчасця ў жыцці, Джэйн дае яго сваім гераіням — Элізабэт Бэнэт, дасціпнай і вострай на язык, як сама аўтарка, і Джэйн Бэнэт, мяккай, добрай, ледзь не святой дзяўчыне, якая так падобная да Касандры.

Вернемся да містара Бэнэта, які з'яўляецца антыподам сваёй жонкі: разумны, іранічны, яго ўлюбёнае месца ў доме — бібліятэка, дзе ён «нязменна разлічваў на свабоду і спакой». Тым не менш і ў яго ёсць заганы: ён пасмейваецца з дурасці жонкі, нахабнасці і распуснасці дачкі Лідзіі, надзвычайнай нуднасці другой дачкі — Мэры, і пры ўсім пры гэтым не робіць абсалютна нічога, каб выправіць сітуацыю ў сям'і. Варта толькі падняць галаву ад кнігі і паглядзець вакол сябе, каб убачыць такіх самых містараў бэнэтаў, ахвочых да насмешак, але бяздзейсных. Чаго не скажаш пра містара Дарсі. Такі тып людзей — нешматслоўных, але словы якіх маюць вагу — рэдкасць цяпер, ды і ў любыя часы.

«Гонар і прадузятасць» упершыню пераклаў на рускую мову Іmануэль Маршак, сын таго самага Маршака, пры тым што спадар Іmануэль быў славутым доктарам тэхнічных навук. У 2008 годзе з'явіўся яшчэ адзін пераклад — Анастасіі Грызуновай. Поўны ўстарэлай лексікі, архаічных формаў і грувасткіх канструкцый, пераклад чытаецца не так лёгка, як маршакаўскі, але менавіта дзякуючы такім формам дакладна перадаецца іронія Джэйн Остэн. Таксама існуе пераклад Ірыны Гуравай.

Пасля «Гонару і прадузятасці» Джэйн Остэн выдала яшчэ дзве кнігі. У 1817 годзе «першай лэдзі» англійскай літаратуры не стала. Тры раманы так і засталіся недапісанымі, а «Довады розуму» («Persuasion») і «Нортэнгерскае абацтва» («Northanger Abbey») выйшлі пасмяротна — пра творчую спадчыну Джэйн паклапаціўся родны брат Генры Остэн.



Фота Алены Рамашко

У межах канферэнцыі гурт «Стары Ольса» зладзіў выступленне для ўсіх наведвальнікаў Дудутак.

# Адценні «Дударскага фэсту-2013»

Калі апісаць сёлетні «Дударскі фэст» адным словам, то я назвала б яго настальгічным. Магчыма, гэта звязана з тым, што фестываль быў прысвечаны 10-гадоваму юбілею гурта *Testamentum Terrae* і ўдзельнікі з задавальненнем плылі па рацэ ўспамінаў. А можа, таму, што наступны фэст пройдзе ажно праз два гады, а не праз год, як звычайна, — вось і закралася ў агульную весялосць нотка суму і прадчування досыць доўгага расстання. Але, з іншага боку, гэтая настальгічнасць стварыла непаўторную атмасферу фэсту: традыцыйная канферэнцыя ў Дудутках ператварылася хутчэй у сустрэчу старых сяброў, цёплую гутарку паплечнікаў, а заключны канцэрт у сталічным клубе «Re:Public» сабраў поўную залу прыхільнікаў самага старажытнага беларускага інструмента.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Сёлетні фестываль дуды можна назваць таксама надзвычай сціплым і шчырым. Сціплым — бо не было традыцыйных замежных гасцей, вядомых у многіх краінах свету. Таму гэта быў хутчэй фэст-справаздача айчынных дударскіх музычных праектаў, чым знаёмства з новымі гуртамі і іх творчасцю. Шчырым — бо тыя беларускія калектывы, якія выступалі на фестывальнай сцэне, не далі публіцы ніводнай зачэпкі сумнявацца ў адданасці інструменту, павазе да традыцыі. Гурты — кожны са сваім адметным характарам — па-рознаму інтэрпрэтуюць нашу музычную спадчыну, ствараюць адметны настрой у кампазіцыях. Гэта добра вядомыя «Стары Ольса», сёлетні юбіляр *Testamentum Terrae*, надзвычай папулярны фэнтэзійны *Irdorath*, актуальная *Pawa* з фолькава-электронным гучаннем і зусім малады праект «Літы талер» — крыху мадыфікаваны гурт «Тутэйшыя».

Што да традыцыйнай канферэнцыі ў Дудутках, то яна сталася і пэўнага кшталту падсумаваннем вынікаў працы, і акрэсліла кола праблемных момантаў. Хоць падчас імпрэзы не прагучала ніводнага даклада, нельга сцвярджаць, што яе ўдзельнікі проста марнавалі час. Прадзюсар «Дударскага фэсту», лідар гурта «Стары Ольса» Зміцер Сасноўскі адзначыў:

— Шмат год падчас канферэнцый мы разглядалі самыя цікавыя моманты, факты, якія нашы дудары, даследчыкі знаходзілі ў архівах, музеях. Гэта і новыя віды дудаў, спосабы ігры на іх, новыя адкрыцці ў галіне вывучэння традыцыі. Летась было вельмі цікавае абмеркаванне, бо мы нарэшце заняліся вызначэннем нашай традыцыі ў этнаграфічным плане. Сёлета дударскі рух прыйшоў да новага этапу свайго развіцця. Неяк само сабою ўзнікла і надзвычай актуальнае пытанне. Справа ў тым, што ўсё, што мы робім і чаго дасягаем, у Расіі адразу ж абвяшчаецца дасягненнем не ў галіне даследавання нашай беларускай дуды, а нейкай міфічнай «рускай валынкі». Раней ніколі не паўставала пытанне неабходнасці стварэння ідэалогіі руху, усё развівалася само сабою, досыць хаатычна. Цяпер жа мы павінны дакладна абазначыць, што мы не рэканструюем рускую валынку, мы робім сваю традыцыю. Гэтае пытанне патрабуе сур'ёзнага абмеркавання.

На гэты конт выказаўся адзін з пачынальнікаў руху і заснавальнік «Дударскага фэсту», музыка і майстар Тодар Кашкурэвіч:

— Варта падкрэсліць, што ў Беларусі рэканструкцыя дуды распачалася не на пустым месцы. Я ўдзячны свайму настаўніку Алесю Лосю за тое, што ён мяне навучыў майстраваць дуды. У той час, больш як 20 год таму, мы зрабілі сабе інструменты і адразу вырашылі ладзіць фестываль. Як на сёння, то гэтая ідэя ўспрымаецца з доляй іроніі. Насамрэч працы па рэканструкцыі дударскай традыцыі было так шмат і столькі яшчэ наперадзе, што мы можам збірацца не на адну канферэнцыю і абмяркоўваць нашы агульныя пытанні. Цешыць тое, што ў нашай краіне рух адбыўся і набыў сапраўды масавы характар. Дуда стала элементам розных субкультурных плыняў: можна згадаць і розныя электронныя, металёвыя, панкаўскія, сярэднявечна-рэканструкцыйныя праекты. Інструмент «выбраўся з вясковых порткаў», стаў актуальным для сучаснай культуры, у тым ліку моладзевай.

У сваім выступленні спадар Тодар таксама падкрэсліў, што менавіта наша краіна стала лідарам у адраджэнні традыцыі. Прыкладна 60 дудароў (а менавіта столькі музыкаў граюць сёння на дудах) — вельмі вялікая лічба. Апошні год быў асабліва цікавы ў плане пошукаў і знаходак аўтэнтычных запісаў дудароў 1920 — 30-х гадоў. На жаль, у Беларусі ёсць толькі лічаныя запісы аўтэнтычных музыкаў. Тым не менш новыя адкрыцці — найгрышы Хведара Сцеся, дудароў з беларуска-літоўскага памежжа — даюць вельмі цікавую перспектыву для развіцця руху і аднаўлення манеры грання, строю дудаў.

— Апошнім часам узнікае нездаровая дыскусія, якая часам пераходзіць нават у сваркі, — непасрэдна да тэмы гаворкі звярнуўся Тодар Кашкурэвіч. — І ў гэтай тэме трэба расставіць усе кропкі над «і». Я цікавіўся інструментамі Расійскай Федэрацыі. Так сталася, што ні ў адным з архіваў аўтэнтычных валынак я не знайшоў. Матэрыялы вельмі скупыя, іх атрыбуцыя спрэчная, і працэнтаў 80 звестак па рускіх валынках знайшлі нашы валанцёры. Інструмент, што мы аднаўляем сёння, — найбольш распаўсюджаны на тэрыторыі Паўночнай Беларусі, Усходняй Літвы, Латвіі (Латгалія), магчыма, у некаторых уездах колішніх Смаленскай і Цвярской губерняў. Гэты інструмент існаваў на тэрыторыях, дзе калісьці пражывалі балцкія плямёны. Пра яго сёння можна казаць як пра ўсходнебалцкую, літоўскую дуду з прывязкай да больш дакладна акрэсленай мясцовасці. Спадзяюся, з такім падыходам мы разбяромся са статусам гэтага інструмента. Самае галоўнае — быць спадкаемцамі традыцый сваіх продкаў.

Думаецца, абмеркаванне гэтага надзвычай важнага пытання яшчэ будзе працягвацца і выйдзе далёка за межы адной канферэнцыі. Але сёлетні фэст запомніцца і іншымі невялікімі адкрыццямі. Да прыкладу, на дудзе можна граць і жанчынам (хоць традыцыйна гэта ўсё ж мужчынскі інструмент), але толькі з разлікам на тое, што праз знаёмства з інструментам і традыцыяй яны будуць добрымі выхавальніцамі сваіх дзяцей.

«Дуда як лёс» — менавіта такой назвай можна абагуліць выказванні прысутных на канферэнцыі дудароў. Калі Зміцер Сасноўскі папрасіў кожнага распавесці пра гісторыю свайго знаёмства з дудой, то адказы былі прыкладна аноькавыя: пачуў, паспрабаваў граць, адчуў незвычайныя вібрацыі, назаўжды палюбіў інструмент. Са слухачамі і аматарамі дуды усё крыху па-іншаму. Але адно дакладна вядома: пазітыўныя вібрацыі, якія атрымліваеш падчас слухання інструмента, вартыя дарагога. Таму чакайма наступных фэстаў!

# Фальклор: узнаўленне матрыцы

**Вячка КРАСУЛІН**

У Мінску прайшла VII Міжнародная навуковая канферэнцыя «Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання», якую праводзіў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Падчас канферэнцыі з дакладамі на актуальныя тэмы выступілі аўтарытэтныя замежныя навукоўцы з Украіны, Польшчы, Расіі і айчынныя даследчыкі беларускай народнай культурнай спадчыны. Адбыліся канцэрты «Традыцыі і пераемнікі», «Фальклор беларускай глыбінкі» і майстар-класы вядучых спецыялістаў у галіне даследавання народных спеўных, інструментальных і харэаграфічных традыцый.

Мэтай канферэнцыі было прадэманстраваць сучасны стан беларускай фалькларыстыкі не толькі як тэарэтычнай, але і як практычнай дысцыпліны. Праблематыка дакладаў закранула шматлікія сферы даследаванняў фальклору: вывучэнне нематэрыяльнай культурнай спадчыны, выкарыстанне набыткаў народнай культуры ў адукацыйнай прасторы, праблемы народных спеваў і этнаінструментазнаўства. Сярод выступоўцаў канферэнцыі пэўную сенсацыю выклікаў эпізод кінахронікі 1939 года, які вышукалі і прадэманстравалі Вячаслаў Калацэй і Канстанцін Рэмішэўскі. На відэакадрах можна пабачыць двух дудароў, якія граюць заліхвацкую мелодыю, прычым можна дакладна вызначыць манеру ігры на дудзе. На сёння гэта адзіны відэадакумент беларускай дударскай традыцыі.

Юбілейным, дзясятым, стаўся сёлетні канцэрт «Фальклор беларускай глыбінкі». У перапоўненай зале ўніверсітэта культуры выступалі: дзіцячы фальклорны танцавальны калектыў «Палескія плясуны» са Століна і аўтэнтычныя спеўныя гурты «Лабчанка» і «Вытокі» вёсак Лобча і Дзятлавічы. Такім чынам былі прадстаўлены ўзоры выканальніцкага майстэрства Заходняга Палесся. Пранізлівыя галасы старэйшых удзельнікаў спеўных гуртоў то ўзрушвалі наведнікаў канцэрта, то заварожвалі тужлівымі ноткамі жніўных песень Лунінеччыны. Перамяжоўваліся спевы скокамі юнакоў і дзяўчат са Століншчыны.

Багатая праграма была запланавана на майстар-класы. З Украіны прыехаў Віктар Лявіцкі, які з'яўляецца ледзь не адзіным чалавекам, які сёння можа на высокім узроўні рэпрэзентаваць традыцыйную ігру на ўкраінскай дудзе. Для айчынных рэканструктараў дуды выступленне Віктара сапраўды мела вялікую значнасць, паколькі многія праблемы па адраджэнні школы ігры на гэтым інструменце ў беларусаў і ўкраінцаў маюць агульныя рысы. Але для пераважнай большасці наведвальнікаў безумоўнымі фаварытамі майстар-класаў сталі латышы з гурта *Rakstі*. А вось на канцэрце «Традыцыі і пераемнікі» *Rakstі* прадэманстравалі мудрагелістыя інтэрвалы ў спеўнай традыцыі свайго рэгіёна. Увогуле, канцэрт атрымаўся багатым на цікавыя нумары. «Ліцвіны», якія цяпер даволі рэдка выступаюць, сыгралі на дыятанічных цымбалах, «Калыханка» Ларысы Рыжковай у чарговы раз давяла, што да фальклору далучаюцца і дзеці. Пад гучныя рытмы бубнаў выканаў дзве кампазіцыі хлапечы гурт дудароў з Сеніц. Традыцыйна выступілі калектывы кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, з якіх вылучылася «Этнасуполка», выканаўшы заліхвацкую «Барыню».



Музыкі гурта «Ветах» Вячаслаў Калацэй, Павел Ляшок, Вячаслаў Красулін.

Кульмінацыяй канферэнцыі стаў клубны канцэрт «Фолк-прайм». Гаспадаром вечарыны быў гурт «Ветах», які адсвяткаваў свае 15-годдзе. «Ветах» быў створаны ў Мінску Вячаславам Калацэем з прафесійных музыкаў як гурт беларускай дударскай музыкі. Мэта яго дзейнасці — рэстаўрацыя ўніверсальных «матрыц» асноўных партытур каранёвага меласу беларусаў. Калектыў за час свайго існавання меў гонар неаднаразова прадстаўляць фальклорную спадчыну Беларусі на фестывалях у Германіі, Польшчы, Літве, Латвіі, Францыі, Расіі, Славакіі.

Павіншавалі гурт сваімі выступленнямі майстар дудаў Дзяніс Сухі і яго паплечнік Стась Чавус, зайграўшы танцы пад дуду і скрыпку. Літоўцы *Kaukoras* запомніліся публіцы эпічнымі спевамі і вясёлай гульнёй «У мядзведзя», а гурты кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ паказалі высокі ўзровень засваення фальклорнага рэпертуару.

На канцэрце «Ветах» прадэманстраваў назапашаны за час існавання рэпертуар, які складаецца як з фальклорных хітоў, так і са свежых здабыткаў фальклорных экспедыцый — валачобнай абыходнай песні «А здароў таму», танцаў «Субота» і «Полька-бабачка». І, канечне, пад гучныя воплескі публікі спявачкі Тацццяна Пладунова і Эвеліна Шчадрына выканалі «Дудара», візітку гурта, жартоўную песню пра нялёгкую долю жанчыны, якая абрала музыку спадарожнікам па жыцці. На танцпляцоўцы ў гэты час дзяўчаты і хлопцы не маглі ўтрымацца на месцы, а студэнты БДУКіМ спецыялізацыі «этнафоназнаўства» дапамагалі развучваць танцы, падпявалі і разам з гуртом стварылі непаўторны святочны настрой, які панаваў тым вечарам у сталічным клубе «Гудвін».

Сёлетняя канферэнцыя была багатая не толькі на фалькларыстаў-навукоўцаў, але і на фалькларыстаў-практыкаў — спевакоў і музыкаў. Сапраўды, арганізатары форуму здолелі замацаваць найлепшыя напрацоўкі мінулых гадоў і зладзіць мерапрыемствы на высокім узроўні. Усе пасяджэнні і канцэрты адбываліся ў поўных аўдыторыях і канцэртных залях. Гэта, безумоўна, сведчыць пра пашырэнне цікавасці публікі да народнай культуры.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

17 мая 2013 г.

# Высокі статус Статута

Нацыянальная бібліятэка Беларусі стала месцам правядзення IX Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў, якія праходзяць у краіне з 1998 года.

## ЕЎРАПЕЙСКАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ НА ДВА З ПАЛОВАЙ СТАГОДДЗІ

Тэма сёлетніх чытанняў гучала як «Статут Вялікага Княства Літоўскага ў гісторыі культуры Беларусі». Ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якое разам з НББ выступіла іх арганізатарам, прысутных павіншаваў Тадэуш Стружэцкі. Ён падкрэсліў значэнне Статута 1588 года, які лічыцца адным з першых канстытуцыйных зводаў і дзейнічаў на беларускіх землях да 1840 года. А таксама адзначыў высокі ўзровень форуму: нездарма яго правядзенне закладзена ў дзяржаўную праграму «Культура Беларусі» на 2011 — 2015 гады.

Грунтоўным атрымалася прывітальнае слова Аляксандра Кавалені, акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі. Як нагадаў вучоны, Статут 1588 года часта называюць «еўрапейскай канстытуцыяй феадальнага грамадства», у якой былі абагулены ідэі, што апярэджвалі час. Напрыклад, адлюстраваны падзел на тры галіны ўлады (заканадаўчую, выканаўчую і судовую). З'яўленне трох статутаў (1529, 1566 і 1588 гадоў) – сведчанне высокага ўзроўню развіцця тагачаснага грамадства. На думку А. Кавалені, кожны з гэтых дакументаў — сімвал нашай магутнасці, сведчанне высокага ўзроўню дзяржаўнага будаўніцтва. А таксама таго, што Беларусь з'яўляецца раўнапраўнай еўрапейскай краінай не толькі геаграфічна.

Наступным прамоўцам стаў дырэктар музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў, пры ўдзеле якога ў Беларусь вярнуўся першы асобнік Статута ВКЛ 1588 года. Звярнуўшыся да тых падзей, Аляксей Мікалаевіч канстатаваў, што музей з'яўляўся тэхнічнай пляцоўкай, каб каардынаваць працу. Тысячы людзей аказалі яго супрацоўнікам давер. Выкуп Статута стаў справай агульнанацыянальнага значэння. Таму выбару, ці працягваць справу надалей, у супрацоўнікаў не было. А. Бацюкоў выказаў спадзяванне, што неўзабаве ў фонды музея трапяць і іншыя каштоўнасці: «Апостал» Спірыдона Собаля і фрагмент скарынаўскай «Бібліі».

У завяршэнне ўрачыстай часткі прагучалі прывітальныя словы прадстаўніка Нацыянальнай акадэміі прававых навук Украіны Аляксандра Кацюбы, а таксама старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Віктара Камянкова.

## ЯК СТАТУТ ТРАПІЎ У РЫГУ?

Пленарнае пасяджэнне пачалося з даклада дырэктара НББ Рамана Матульскага «Дзейнасць Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па захаванні, памнажэнні і папулярызацыі нацыянальнай кніжнай спадчыны». Актуальнасць тэмы больш чым відавочная. З багатай кніжнай спадчыны краіны за асобныя перыяды да нас дайшло літаральна некалькі працэнтаў (тады як у іншых краінах, наадварот, не хапае ўсяго некалькі працэнтаў). Дакладчык прывёў прыклад бібліятэкі князёў Радзівілаў, якая была нацыяналізавана пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР і перададзена ў Акадэмію навук, а падчас вайны вывезена ў Германію. На Радзіму вярнуліся толькі яе рэшткі: цяпер у Беларусі захоўваецца ўсяго каля 4 тысяч асобнікаў.

Сёння НББ працуе адначасова ў некалькіх кірунках. Працягваюцца даследаванні гісторыі бібліятэчнай справы на Беларусі, прычым плануецца выдаць том, прысвечаны падзеям пасля 1991 года. У межах «скарыніяны» рыхтуецца электронная бібліятэка з твораў айчыннага першадрукара, а таксама мяркуецца ажыццявіць факсімільнае выданні яго публікацый. Зрэшты, абедзве тэндэнцыі ўласцівы даследаванню не толькі скарынаўскай спадчыны. Усяго ў НББ налічваецца каля 300 тысяч поўных тэкстаў у электронным фармаце. Што да факсіміле, дык у мінулым годзе з дапамогай Выдавецтва Беларускага Экзархата і «Мастацкай літаратуры» выйшла сем выданняў такога кшталту: «Жыціе Ефрасінні Полацкай», «Полацкае Евангелле», «Буквар», выдадзены ў Вільні ў 1767 годзе, паэма «Сымон-музыка» Якуба Коласа, зборнік «Шляхам жыцця» Янкі Купалы, «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага і «Калядная пісанка. 1913». НББ працягвае працу па папаўненні фонду. За апошні год набыта больш як 150 рэдкіх і каштоўных кніг, сярод якіх «Жыцці святых» (Магілёў, 1702), «Псалтыр» (Вільня, 1782), «Вялікае мастацтва артылерыі» Казіміра Семяновіча, а таксама некалькі каштоўных карт. Працягваецца праца і ў іншых кірунках.

Тэма даклада Таісіі Доўнар, прафесара кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ, гучала як «Канстытуцыйная накіраванасць Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.». У сучасным разуменні Канстытуцыя — дакумент, які дае аднолькавыя правы ўсім грамадзянам дзяржавы. Зразумела, у феадальным грамадстве такое было немагчыма. Але, на думку дакладчыцы, канстытуцыйная скіраванасць Статута несумненная. Там былі замацаваныя найважнейшыя прававыя прынцыпы: законнасці, справядлівасці, падзелу ўлады. Канечне, чысціні гэтага падзелу яшчэ не было, але Статут з'яўляўся дакументам, арыентаваным на будучае.




Фота прадастаўлена Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі

Выступае намеснік дырэктара НББ Алесь Суша.

Яна Дрэйманэ, вядучы даследчык Нацыянальнай бібліятэкі Латвіі, распавяла прысутным пра ўласную ўстанову, а таксама пра загадкавы асобнік першага выдання Статута ВКЛ 1588 г., які знаходзіцца ў фондах НБЛ. Ён трапіў у бібліятэку ў 1924 — 1925 гадах, у перыяд першай незалежнасці Латвіі. Магчыма, Нацыянальная бібліятэка атрымала гэты асобнік з нацыяналізаваных бібліятэк памешчыкаў. У ім няма першых старонак, таму ён адразу пачынаецца з рукапіснага рэестра Статута. Вывучэнне маргіналій дазволіла высветліць, што асобнік належаў Васілю Качубею, генеральнаму пісару Войска Запарожскага. Але пытанне, якім чынам кніга трапіла ў Рыгу, пакуль застаецца адкрытым.

Галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Георгій Галенчанка звярнуўся да праблемы падрыхтоўкі факсімільнага выдання Статута ВКЛ 1566 года. Ён адзначыў, што першыя два статуты не былі выдадзены, хоць шляхецкія колы хадайнічалі пра гэта. Яны распаўсюджваліся ў рукапісным выглядзе, звычайны наклад статутаў складаў каля 200 экзэмпляраў. У Беларусі дагэтуль няма манаграфіі, прысвечанай гэтым дакументам, а таксама акадэмічнага выдання Статута 1566 года.

Кацярына Цілева, загадчык навукова-даследчага аддзела кансервацыі і рэстаўрацыі фондаў Бібліятэкі Расійскай акадэміі навук, спынілася на пытанні захавання рэдкіх і каштоўных кніг з фондаў уласнай установы (на прыкладзе збору Радзівілаў). Выданні трапілі ў Санкт-Пецярбург у 1772 годзе, але не былі аб'яднаныя ў адзін фонд. Пазней частка асобнікаў папоўніла бібліятэку маскоўскага ўніверсітэта, некаторыя былі перададзены ў Хельсінкі. Навукоўцы распрацавалі электронныя карты, якія запаўняюцца пры апісанні пэўнага дакумента. У кожнай налічваецца да 60 параметраў, у тым ліку бібліяграфічныя апісанні, інфармацыя пра стан калекцый (папяровай і электроннай версій). Расійскія даследчыкі выкарыстоўваюць у сваёй працы тэхналогію фазавага захавання. Дзякуючы гэтаму захавальнасць калекцый не выклікае сумненняў.

## ЧАКАЕМ НОВЫ ФАРМАТ

Далейшая праца працягнулася на секцыях. У першы дзень канферэнцыі навукоўцы абмеркавалі такія праблемы, як «Статуты Вялікага Княства Літоўскага ў кантэксце кніжнай культуры XVI стагоддзя» і «Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года як помнік прававой культуры беларускага народа». На другі дзень — «Выяўленне і даследаванне кніжных помнікаў і калекцый», а таксама «Дакументальныя крыніцы па даследаванні гісторыі і культуры Вялікага Княства Літоўскага». Акрамя таго, у фармаце кнігазнаўчых чытанняў адбылося адкрыццё выстаўкі выданняў Статута Вялікага Княства Літоўскага з фондаў НББ і Музея гісторыі Магілёва.

Дарэчы, арганізатары ўжо пачалі падрыхтоўку да наступнага, дзясятага па ліку мерапрыемства, якое пройдзе ў іншым фармаце. Паводле Р. Матульскага, кнігазнаўчыя чытанні спярша нагадвалі ўтульныя сустрэчы кнігазнаўцаў і культуролагаў, прысвечаныя праблемам кнігі. З мінулага года яны сталі праходзіць у новым фармаце і, па сутнасці,ператварыліся ва ўніверсальны навуковы форум, прысвечаны праблемам кнігі. Разам з тым такі ход пазбаўляе чытанні пэўнай камернасці. Таму надалей будуць праводзіцца два мерапрыемствы: вясной — кнігазнаўчыя чытанні, а восенню — бібліятэчны форум.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

# Кнігі не хлусяць

У межах праграмы «Чытаем па-беларуску» аддзел інфармацыйных рэсурсаў Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна падрыхтавау віртуальную выстаўку «Мысліцель і летуценнік», прысвечаную 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Маўра.

**Рына НОВАК**

«Толькі з дапамогай кніг можна зразумець і прачытаць душу глыбокую і цікавую, менавіта тую, якая ёсць на самай справе, бо кнігі не хлусяць. Яны адлюстроўваюць, быццам у люстэрку, увесь духоўны свет аўтара, без аніякага макіяжу і прыхарошванняў», — гаворыцца ва ўступным слове.

Тая ўвага, якую праявілі да выстаўкі віртуальныя наведвальнікі, сведчыць: з героямі кніг пачынальніка прыгодніцкага і навукова-пазнавальнага жанру ў беларускай прозе Янкі Маўра знаёмяцца і сёння. Пісьменнік стварыў адметныя і яркія характары людзей, у якіх на першым плане гуманізм, мужнасць і высакароднасць — якасці, магчыма, непрыкметныя сярод рэалій XXI стагоддзя, але па-ранейшаму запатрабаваныя. Пісьменнік-класік паўстае перад чытачамі творцам-наватарам, які ўзбагаціў беларускую дзіцячую літаратуру новымі тэмамі, своеасаблівымі жанрамі. У той жа час на падставе сабраных матэрыялаў сцвярджаецца, што Янка Маўр пашырыў абсягі сусветнай дзіцячай літаратуры, далучыў да агульных клопатаў дзяцей усяго свету — гавараць з імі праз зачытаныя друкаваныя старонкі.

Сярод інтэрнэт-рэсурсаў бібліятэка прадстаўляе сайт Янкі Маўра — http://yankamavr.ru. На ім можна знайсці аповесці «ТВТ», «Сын вады» і «У краіне райскай птушкі», іншыя творы. Таксама — артыкулы пра пісьменніка, яго жыццё і творчасць: віртуальная выстаўка складаецца з чатырох раздзелаў.

Даюцца таксама спасылкі на іншыя крыніцы. Да прыкладу, Янка Маўр на сайтах «Беларуская палічка. Беларуская электронная бібліятэка», «Вікіпедыя», «Лабараторыя фантастыкі», «Lib.Ru». Тут жа можна ўбачыць шмат фотаздымкаў: Янкі Маўра-семінарыста, у гутарцы з Якубам Коласам, помнік і магілу на Усходніх могілках у Мінску.

# Слуцкі «сюжэт для вечнасці»

**Валянціна ЦЭГАЛКА**

Творчая сустрэча з вядомым беларускім паэтам, публіцыстам, журналістам, галоўным дырэктарам міжнароднага вяшчання Беларускага радыё, аўтарам і вядучым папулярных радыёпраграм Навумам Гальпяровічам адбылася ў слуцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Імпрэза прайшла ў поўнай зале. На яе сабраліся настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, бібліятэкары, вучні СШ № 5, навучэнцы прафесійна-тэхнічнага каледжа перапрацоўчай прамысловасці, чытачы бібліятэкі. Зрэшты, у такой цікавасці ёсць свая логіка: летась кніга Н. Гальпяровіча «На трапятким агні» была ўключана чытачамі бібліятэкі ў пяцёрку лепшых кніг беларускіх аўтараў.

Гэтым разам Навум Якаўлевіч прэзентаваў бібліятэцы новую кнігу — «Сюжэт для вечнасці».

У вечарыне ўзяла ўдзел Наталля Нікіціна, аўтар і выканаўца песень на вершы Навума Гальпяровіча. Кожны з прысутных меў магчымасць задаць пытанне творцы і набыць кнігу — зразумела, атрымаўшы аўтограф аўтара.

*Ініцыятыва*

# «Сузор’е», якое вандруе

Мінская публічная бібліятэка № 15, што носіць імя Цёткі, запрасіла чытачоў на прэзентацыю паэтычнага зборніка «Сугучча». У яго ўвайшлі творы сяброў музычна-літаратурнага аб’яднання «Акорд», што працуе на базе сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 2.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Упершыню аматары паэтычнага слова і музыкі сабраліся разам у снежні 2008 года дзякуючы згодзе дырэктара бібліятэкі Раісы Шпакоўскай, якая прапанавала ім памяшканне. І хутка будзе пяць гадоў, як такія сустрэчы сталі добрай традыцыяй. Сюды запрашаюць сяброў і знаёмых, з гонарам вядуць гасцей з замежжа. Бо «Акорд» — сузор’е, у якім утульна побач «зоркам» рознай велічыні. У суполку ўваходзяць не толькі самадзейныя, але і прафесійныя музыканты і кампазітары, літаратары з немалым наборам рэгалій. Ды гэта не перашкаджае аматарам сказаць сваё слова і быць пачутымі.

І вось кніжная палічка беларускай паэзіі папоўнілася выданнем, у якім чытач знойдзе творы як аўтараў, на рахунку якіх паэтычных публікацый багата (Эдуарда Самойлава, Тамары Залескай, Юрася Нератка, Дзмітрыя Ермаловіча-Дашчынскага і інш.), так і тых, хто адносна нядаўна асмеліўся выдаць першую кнігу ці рыхтуецца гэта зрабіць (Вольгі Шпакевіч, Ядвігі Рай).

Нешараговая падзея — выхад зборніка — стала добрай нагодай завітаць у госці да суседзяў. Наведвальнікі мерапрыемства ў бібліятэцы імя Цёткі засталіся вельмі задаволеныя. Таму што, паўтаруся, аўтары «Сугучча» — людзі політаленавітыя. Лепшы аргумент на карысць гэтай думкі — знаёмства з іх біяграфіямі. Перад творамі змешчаны адносна невялікі тэкст, у якім кожны з аўтараў сказаў пра сябе самае галоўнае.

Рэпрадукцыі сваіх карцін ахвотна дорыць сімпатычным яму людзям паэт і вандроўнік Эдуард Самойлаў. Майстар экспромтаў, ён, запрошаны на вечарыну якога-небудзь іншага паэта, пасля яе завяршэння можа падарыць і ўласную кнігу з прысвячэннем, напісаным менавіта падчас вечарыны. Не можа не ўразіць такі факт біяграфіі Э. Самойлава: ён сорак пяць гадоў вёў урокі для дарослых у вячэрняй школе, якая размяшчаецца ў калоніі.

Чытач з задавальненнем пазнаёміцца і з галоўнымі вехамі творчага шляху выкладчыцы Тамары Залескай, аўтара тэксту песні «Афіцэры Беларусі» (муз. А. Фёдарава). Песні і рамансы на словы Дзмітрыя Ермаловіча-Дашчынскага ёсць у рэпертуары такіх вядомых спявачак, як Алена Сало, Іскуі Абалян і многіх іншых. Яго песенныя тэксты ўвайшлі ў спектаклі Сучаснага мастацкага тэатра. Дзмітрый таксама шмат выступае перад публікай — і ў вялікіх залах (філармонія), і ў камерных. У зборніку — новы праект паэта і барда Юрася Нератка: вершы, напісаныя ад імя «лірычнага аўтара» Ніка Аблома.

У зборніку «Сугучча» чытач таксама знойдзе вершы Івана Пыхі, Людмілы Клімовіч, Марыі Паўлюкевіч, Льва Міхеева, Тамары Гонтаравай, Любові Чудзінай, Уладзіміра Шамко, Рамана Коціна, Наталлі Валадзьковай, Яўгеніі Бандаронак, Мікалая Палякова, Галіны Чарновай і Соф’і Макарэвіч.

«Студыя «Акорд» блізкая з-за наяўнасці ў ёй цікавых, неардынарных людзей, нераўнадушных адзін да аднаго, да мастацкага слова і музычнага гуку. І шырокага разумення сутнасці паэзіі», — так напісаў у прадмове да кнігі Юрась Нераток. Дзверы «Акорда» расчынены для ўсіх. А сустрэцца з яго «зоркамі» даволі проста — звярніцеся ў бліжэйшую бібліятэку і азнаёмцеся са спісам мерапрыемстваў (праходзяць яны кожную трэцюю нядзелю месяца, пачатак а 15-й гадзіне). Далучайцеся!

# ...А сэрца стукае: «Пішы!..»



Палеская зямля — невычэрпная крыніца талентаў. У гэтым упэўніла і літаратурная вечарына з нагоды прэзентацыі зборніка нашага земляка Анатоля Крэйдзіча «Роднае, шчымлівае», што ўбачыў свет пры канцы мінулага года. Ініцыятарамі мерапрыемства сталі бібліятэка імя Ф. Панфёрава, а таксама Выдавецкі дом «Звязда».

**Ірына САЛОМКА**

Імя Анатоля Крэйдзіча добра вядома прыхільнікам прыгожага пісьменства. У 1994 годзе была надрукавана яго першая кніга прозы «Права на ўсмешку». У 2001-м з’явілася п’еса «Палескі Напалеон» і аднайменная кніга, яшчэ праз год — зборнік «Паранены мары». У 2005-м — дакументальная кніга «Анатоль Клімец. Жыццё і лёс». Надзвычай плённым выдаўся мінулы год, калі ўбачылі свет адразу дзве кнігі: «Роднае, шчымлівае» і «Зборнік прозы», у які ўвайшлі творы А. Крэйдзіча і Уладзіміра Глушакова. І гэта нягледзячы на тое, што Анатоль Мікалаевіч — чалавек заняты, ён сумяшчае кіраўніцтва іванаўскай раённай газетай «Чырвоная звязда» і Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

— Адно толькі шкада: малавата гадзін у сутках, таму літаратурнай творчасцю выпадае займацца па начах, — прызнаецца аўтар і напаўжартам-напаўсур’ёзна працягвае. — Вось бы ўзнагародзілі годам творчага адпачынку… Ёсць у мяне нязздзейсненая мара: хачу напісаць вялікі мастацкі твор. Бо калі дасягаеш нейкага ўзроўню, хочацца браць наступны, больш важны, дасканалы, якім і з’яўляецца раман. Сэрца загадвае: «Пішы!..» Месцам дзеяння я абраў куточак Беларусі на памежжы з Украінай і Польшчай. У рамане будзе шмат прыгод і кахання. Хачу, каб чытачу было не нудна, цікава, — распавядае літаратар.

Насамрэч усё складаней. Любоўныя і прыгодніцкія перыпетыі паслужаць прыцягальным фонам для раскрыцця глабальнай тэмы пра змену цывілізацыі — савецкай і постсавецкай рэальнасці, для асэнсавання часу і чалавека ў гэтым часе, выяўлення ў ім свайго нацыянальнага, беларускага.

Упэўнена, калі раман будзе напісаны, на паліцах кнігарняў надоўга не затрымаецца.

# Інавацыйны досвед і ветэраны

Па шматгадовай традыцыі ў вясеннія дні праходзяць сустрэчы ветэранаў бібліятэчнай справы сталіцы. Сёлета імпрэза адбылася ў Мінскай гарадской ратушы.

**Алена ДРАБО**

У зале прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх бібліятэчных сістэм горада — дзіцячай, публічнай, вучэбнай, тэхнічнай, акадэмічнай, медыцынскай, сельскагаспадарчай — паколькі бібліятэка суправаджае чалавека на ўсіх яго жыццёвых этапах.

Галоўны спецыяліст Упраўлення культуры Мінгарвыканкама, куратар публічных бібліятэк і музеяў г. Мінска Марына Ясюк звярнулася да ветэранаў са словамі шчырай удзячнасці за адданасць прафесіі, вялікі ўнёсак у развіццё інфармацыйнай сферы сталіцы, за выхаванне высокакваліфікаваных спецыялістаў.

На сустрэчу з ветэранамі прыйшлі беларускія пісьменнікі, тыя, хто сёння фарміруе светапогляд чытачоў: сталыя і маладыя творцы на чале са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым.

Свае вершы і прысвячэнні бібліятэкарам прачытаў Павел Саковіч, а кампазітар і спявак Аляксандр Якіменка выканаў «Гімн бібліятэкару» на словы М. Пазнякова.

Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, намеснік старшыні Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі Алена Далгаполава адзначыла важнасць такіх сустрэч.

Вялікую цікавасць у прысутных выклікала фотасправаздача «Нашы бібліятэкі-2013», прадстаўленая дырэктарам бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, старшынёй Міжведамаснага гарадскога бібліятэчнага савета г. Мінска Надзеяй Сяткоўскай. Новыя тэхналогіі ў кніжніцах, іх інавацыйны досвед — усё гэта было цікава для ветэранаў.

Разам з экскурсаводамі Музея гісторыі горада Мінска ветэраны бібліятэк здзейснілі падарожжа ў мінулае сталіцы, даведаліся шмат новага пра ратушу, гісторыю Верхняга горада, паглядзелі экспазіцыю «Беларуская кніга: гісторыя і сучаснасць».

# Што? Дзе? Калі?

Трэці Форум бібліятэкараў Беларусі «Гуманітарна-асветніцкая дзейнасць бібліятэк у кантэксце агульначалавечых каштоўнасцей і беларускай дзяржаўнасці» пройдзе 23 — 25 мая 2013 года. Арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларуская бібліятэчная асацыяцыя і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. На форуме плануецца абмеркаваць такія праблемы, як нарматыўнае прававое забеспячэнне і інфармацыйныя тэхналогіі ў бібліятэчнай галіне, вынікі дзейнасці і прыярытэты развіцця Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі.

«Круглы стол» па праблемах падрыхтоўкі спецыялістаў у сферы інфармацыі і камунікацыі прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Яго арганізатарамі выступілі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, а таксама НББ. Асноўнымі тэмамі для абмеркаванняў сталі «Міждысцыплінарныя сувязі ў падрыхтоўцы спецыялістаў у інфармацыйна-камунікацыйнай сферы (дакументазнаўцаў, архівістаў, бібліятэкараў-бібліёграфаў і інш.)» і «Тэарэтыка-тэрміналагічныя праблемы дакументазнаўства, архівазнаўства і сумежных дысцыплін». У пасяджэнні ўзялі ўдзел спецыялісты архіўнай, бібліятэчнай справы, выкладчыкі і аспіранты вышэйшых навучальных устаноў Мінска, а таксама спецыялісты з Украіны.

Выстаўка «Кніга і аўтарскае права ў сучасным грамадстве», прысвечаная Сусветнаму дню кніг і аўтарскага права, адкрыта ў зале дакументаў міжнародных арганізацый Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На ёй прадстаўлена больш як 80 публікацый ААН, ЮНЕСКА, Савета Еўропы і Еўрапейскага саюза з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі на рускай, англійскай, французскай і нямецкай мовах: кнігі, перыядычныя выданні, брашуры, буклеты. Выстаўка ўключае наступныя тэматычныя раздзелы: «Кніга і яе роля ў сучасным грамадстве», «Кніжная культура, культурная палітыка ў свеце», «Аўтарскае права. Дзейнасць Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці (САІУ)», «Міжнародныя канвенцыі, дагаворы і пагадненні ў сферы кнігавыдання, кнігараспаўсюджання і аўтарскага права» і «Абарона аўтарскага права, кніжная і выдавецкая справа ў Рэспубліцы Беларусь».

Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага абвясціла правядзенне міжнароднага «круглага стала» «“Брэсцкая Біблія” — унікальны помнік культуры XVI стагоддзя: да 450-годдзя выдання», які адбудзецца 29 — 31 мая 2013 года. Мерапрыемства з’яўляецца лагічным працягам кнігазнаўчых канферэнцый «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследаванняў» 2008 і 2012 гадоў. Яно прымеркавана да значнага культурнага юбілею: у верасні 1563 года ў Брэсцкай друкарні за кошт канцлера Вялікага Княства Літоўскага Мікалая Радзівіла Чорнага была выдадзена Біблія, якая ўключала ўсе тэксты Старога і Новага завету і стала адным з першых поўных перакладаў новага часу з моў арыгінала. Падчас «круглага стала» плануецца абмеркаваць такія пытанні, як «Гісторыя Брэста XVI стагоддзя», «Дзейнасць і рэканструкцыя рэпертуару брэсцкіх друкарань XVI ст.» ды іншых.

Дні праваслаўнай кнігі «Жывое слова мудрасці духоўнай» прайшлі ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага. Мерапрыемства было праведзена сумесна з Гродзенскай епархіяй Беларускай Праваслаўнай Царквы і аддзелам адукацыі гарадскога выканаўчага камітэта. У яго межах прайшлі навукова-практычная канферэнцыя «Радасць духоўнага слова» і літаратурна-музычны вечар «Чтоб силу верой обрести». Акрамя таго, на працягу тыдня ва ўніверсальнай чытальнай зале дзейнічаў адкрыты прагляд літаратуры праваслаўнай тэматыкі.

Прэзентацыя сумеснага праекта Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя А. П. Гайдара і рэдакцыі часопіса «Вясёлка» пад назвай «55 колераў Вясёлкі» прайшла ў барысаўскай кніжніцы. Аднымі з галоўных удзельнікаў свята сталі сябры бібліятэчнага гуртка «Ліхтарык», што працуе ў сярэдняй школе № 10. Юныя знаўцы роднай мовы, чые вершы былі змешчаны ў чацвёртым нумары часопіса, інсцэніравалі казкі беларускіх пісьменнікаў, спявалі прыпеўкі, прэзентавалі свае вершы і загадкі, змешчаныя ў рукапісным зборніку «Промні Ліхтарыка». У свяце ўзяў удзел і галоўны персанаж часопіса — Вася Вясёлкін. Адказваючы на яго пытанні, дзеці атрымалі салодкія прызы і сувеніры. Вясёлкавае свята працягвае сваё шэсце па бібліятэках Барысаўшчыны.

**Даніла АРЦІМОВІЧ, Людміла ЗАХАРЭВІЧ**

# «Больш клопату, ніж таго жыцця...»

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Веснавы гумор творчаму чалавеку псуе гарадское дрэва, даведзенае да ладу паводле бяспекі ды эстэтыкі — добра так папілаванае і папастрыжанае. З усіх бакоў, на ўсіх узроўнях. Дзесьці ў ягоных шатах, пасярод галін ды параcткаў, да апошняга хаваліся такія батанічныя таямніцы, без якіх жыццё дрэва гарманічна не спраўдзіцца. Датыкацца да іх трэба было далікатна. А выпадковым службоўцам з пілою лепей было й не датыкацца зусім. Бо ў выніку дрэва замест жыцця асудзілі на выжыванне. А ў выжыванні гармоніі няма.

...Веснавы гумор творчаму тэатральнаму чалавеку псуе рэальнасць, дзе вобраз службоўцаў з пілою асуджае на план па спектаклях і план па гледачах. Але тэатральную перспектыву таксама захапілі — і хто?! Распаўсюднікі тэатральных квіткоў. Самае высокае, самае мастацкае распаўсюднікам не трэба. А найлепшы тэатр сёння — цырк. Там вартая праграма. Таксама добрая праграма ў казіно. А калі зайсці з боку мастацтва, дык чым выхоўваць гледача? Яшчэ трэба падвыхаваць артыстаў і крытыкаў. Артыстам трэба больш плаціць. Крытыкам плаціць няможна, бо яны не змогуць быць аб'ектыўнымі за грошы. І трэба стварыць цэнтр, але хто яго будзе фінансаваць? А лепш — прыняць закон пра тэатр!

Збольшага гэта ўсё праблемы «круглага стала», які пры канцы сёлетняга красавіка зладзіў Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі пад назвай «Сучаснае тэатральнае мастацтва Беларусі: рэальнасць і перспектывы». Навукоўцы меліся зафіксаваць пэўны зрэз тэатральнай рэчаіснасці — з пагарэлым Мазырскім тэатрам і адбудаваным Купалаўскім, са станам тэатральнай школы, з коштамі арэнды для антрэпрыз ды прапановамі для дзяцей... Жарты ўбок: тэатральная сістэма састарэла. Настолькі, што пра гэта сведчылі ўсе — ад рэжысёра-педагога да загадчыка літаратурнай часткі. «Трэба ўсіх звольніць і браць нанова па конкурсе!» — дзяліліся набалелым. «Трэба грошы! Бракуе грошай! Грошай не даюць!» — сцвярджалі знаўцы. «У тэатры выжывуць толькі фанатыкі!» — цытавалі вядомага расійскага артыста-рэжысёра-прадзюсара. Падавалася таксама меркаванне, што эканоміка дадушыла мастакоўскае парыванне душы, а закуліссе апанавала зграя непрафесійнікаў. Маўляў, за тыя грошы, што атрымліваюць у тэатры... Ай! Сёння тэатру патрабуюцца... усе. Наколькі датрымае штатны расклад.

...Па трэцяй гадзіне сустрэчы сутнасць вынікнула намаганнем прафесара Вадзіма Салеева, які сфармуляваў наступнае: «Для чаго тэатр?» І запанавала ціша. Бо наша тэатральнае дрэва, даведзенае да ладу паводле бяспекі ды эстэтыкі, зрабілася траха не драўнінай. А тыя галіны, што квітнеюць і даюць спадзеў на плады, нешматлікія. Дый на кожны ўпадабаны (і ўпарта пільнаваны) працэс квітнення можна нацкаваць службоўца з пілою.

Мяне асабіста ўражвае гісторыя беларускага спектакля, які паспяхова жыве больш як дваццаць гадоў: ён з'явіўся на свет як студэнцкі і дыпломны. З даробкамі і ўлікам пракату быў перанесены на сцэну недзяржаўнага тэатра. Тэатр сканаў, а спектакль падтрымалі артысты ды адмыслоўцы (грымёр, касцюмер). Спектакль працягваў жыць з дапамогай прадзюсара. Прадзюсары мяняліся. Было, спектакль не іграўся колькі месяцаў запар. Летась, калі чарговы раз аднавіліся іграць, выявіліся глядачы-старажылы. Тыя штогод імкнуцца ў залу, «каб падтрымаць жыццёвы гумор», ведаюць ягоны пакручасты жыццяпіс і ўсіх выканаўцаў. На справядлівае пытанне «і як доўга яшчэ працягнецца жыццё спектакля?» адказалі прадзюсар і артыст. Прадзюсар сказала: «Пакуль артысты будуць яго любіць». Артыст сказаў: «Пакуль прадзюсар будзе любіць артыстаў». У адмысловай супольнасці іх не страшыць план па гледачах. Артысты імправізуюць: вельмі далікатна, не парушаючы колішніх рэжысёрскіх задач і патрабаванняў. Спектакль мяняецца з часам і мяняецца ў часе, сёння выглядаючы як адмысловы рарытэт, як жывая тэатральная легенда. Спектакль гэты — «Камедыя пра злашчаснага селяніна Дзёмку, ягоную жонку Маланку, арандатара Давіда і Чорта, які страціў сэнс існавання». Выдае на ідылію? Але прадзюсар «Камедыі...» Джэні Шарыпава — практык-прагматык. Артысты «Камедыі...» у складзе вядомых тэатральных труп працуюць на добрых стацыянарных пляцоўках. У спектаклях, якія трымаюцца год-два-тры і здымаюцца з пракату, маючы датацыю, штат абслугі і нават слаўтых распаўсюднікаў тэатральных квіткоў. Разважаючы пра эканоміку, трэба мець на ўвазе любоў. Перадусім тую, без якой не ствараюцца спектаклі.



*Сцэна са спектакля «Камедыя».*

Наступная вынятка мае на мэце ў чымсьці патлумачыць шматгадовы поспех «Камедыі...», якая на сваім узроўні разглядае «...такія складаныя філасофскія паняткі, як узнікненне светабудовы, крыніцу канфлікту дабра і зла, мэту асобнага чалавечага жыцця і ўсяго чалавецтва», дзе «...выказваецца ўпэўненасць у канчатковай перамозе дабра, пераўтварэнні свету і чалавека...» Аўтарка — Галіна Алісейчык, кандыдат мастацтвазнаўства. Яе кніжка «Містэрыі старажытных славянаў і генезіс тэатра» з'явілася ў 2010 годзе і напісана не пра спектакль «Камедыя...», але абсалютна пераканаўча абгрунтоўвае ўмову, якая нібыта і маецца на ўвазе, але застаецца па-за свядомасцю большасці нашых сучаснікаў — стваральнікаў ды спажыўцоў масавых, інтэлектуальных альбо цалкам элітных. «Тэатр з'яўляецца наймоцным сродкам уздзеяння на масавую свядомасць, таму ва ўсе часы і ў кожным грамадскім утварэнні была надзвычай важная матывацыя стварэння спектакля». Матывацыя! Інакш кажучы, што я скажу свету? «Можа быць, — чытаем у Галіны Алісейчык, — крызіс сучаснага тэатра, адсутнасць новых тэатральных ідэй, вобразу новага тэатральнага героя звязаны з крызісам матывацый?.. Глыбінная сутнасць тэатра не можа прыстасавацца да заземленасці тэмаў і прыняжанасці характараў?»

Для чаго тэатр? Як весці гаворку пра ягоную глыбінную сутнасць і не насмяшыць эканамістаў? Больш як дваццаць гадоў крочыць «Камедыя...» па калдобінах эканомікі. Можа быць, феномен набліжае адказ, які яшчэ не ўсвядомлены? А пакуль з нашым дрэвам, папастрыжаным і папілаваным, «больш клопату, ніж таго жыцця».

# Людзі на балоце

**«Песні Дрыгвы» Алеся Квяткоўскага прадстаўлены ў галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Выстаўка жывапісу прымеркавана да 35-годдзя прафесійнай і педагагічнай дзейнасці мастака.**



*Алесь Квяткоўскі «Багна», 2012.*

**Таццяна ШЫМУК**

Новы праект Алеся Адамавіча складаецца з твораў, напісаных у асноўным за мінулы год. Але і раней у праектах «Колеры лесу» і «Мядовы спас» аўтар актыўна звяртаўся да беларускай міфалогіі («Лесавічкі», «Балота Ліхамочча», «Пан Лес», «Бажавоўк» і інш.). «Песні дрыгвы» з'явіліся праз верш Віктара Шніпа «Балота», праз вандроўкі па Палессі, а таксама супрацоўніцтва з грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны». На адкрыцці выстаўкі мастак адзначыў: «Цікава, што мяне як манументаліста "панесла" ў балота" і ў стыль "ню"». Алесь Квяткоўскі ўбачыў міфалагічных істот не жахлівымі стварэннямі, а паэтычнымі ўвасабленнямі зямной прыгажосці. Героямі яго сталі вядомыя асобы беларускай культуры, а таксама вобразы з мінуўшчыны, з роднай мастаку Валожыншчыны. Акрамя твораў Алеся Адамавіча выстаўка змяшчае і некалькі карцін паэтэсы Вікторыі Ільінскай, жонкі мастака.

Яго часта называюць падзвіжнікам, бо шмат гадоў Алесь Квяткоўскі перадае досвед студэнтам не з дапамогаю падручнікаў па метадыцы, а ад сэрца і душы. Выкладчыцкую дзейнасць ён лічыць адным з найгалоўнейшых занятках свайго жыцця.

Госці імпрэзы змаглі не толькі ацаніць міфалагічныя і алегарычныя творы Алеся Квяткоўскага, але і паслухаць цудоўную музыку Алеся Лося і яго капэлы, прысвечаную беларускім балотам, а таксама патрапіць на паэтычную прэзентацыю і дэгустацыю «балотнай» гарбаты.

«І кожны кулік хваліць сваё балота, і кожная жаба хваліць сваё балота. І толькі мы, жывучы ў балоце, не хочам бачыць свайго балота, як свайго багацця», — пісаў Віктар Шніп, а на адкрыцці выстаўкі паэт зазначыў: «Балота Алеся Квяткоўскага жывое, у вобразе жанчыны яно спакушае пайсці ў балота творчасці і не вярнуцца. Мы, жывучы ў гэтым балоце, не гінем, а праслаўляем яго, бо мы — людзі на балоце».

Выстаўка будзе працаваць да 3 чэрвеня.

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71

бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў

Наклад — 2722
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 16.05.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1985
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686